


№ 8(25)
Люты 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:





### Музеі – на ўлік

Супрацоўнікі лабараторыі музейнага праектавання Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры вырашылі вывучыць і сістэматызаваць музейную справу. Цяпер яны рыхтуюць да друку даведнік пра ведамасныя мінскія музеі пры міністэрствах, установах і прадпрыемствах. Узята ўжо на ўлік звыш 30 такіх музеяў.

Нядаўна навуковыя супрацоўнікі названай лабараторыі выпусцілі ў свет даведнік "Музеі Беларусі", дзе ёсць звесткі аб 129 дзяржаўных музеях і 76 філіялах, што знаходзяцца ў сістэме Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

### У "Краязнаўчую газету"

*Школьнікі задоўга рыхтаваліся да гэтай сустрэчы: развучвалі вершы і песні, рыхтавалі сувеніры. Нарэшце завіталі ў школу старшыня раённага Савета ветэранаў вайны і працы Гардон Міхаіл Гершанавіч і сябра раённага Савета ветэранаў вайны і працы, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Чарняўскі Міхаіл Трафімавіч.*

*Міхаіл Трафімавіч прадэманстраваў і пракаментаваў падрыхтаваны ім слайд-фільм, прымеркаваны да 60-х угодкаў вызвалення Мядзельшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, "Падзеі Вялікай Айчыннай вайны на Мядзельшчыне". Слайд-фільм пабудаваны выключна на мясцовым матэрыяле. Мелася некалькі кадраў, якія датычыліся і вёскі Камарова. Мерапрыемства зрабіла вялікае ўражанне на прысутных.*

*Іван ДРАЎНІЦКІ, кіраўнік краязнаўчага гуртка "Валошкі" Мядзельскай базы юных турыстаў*

### Музейныя справы

## Клопат пра Ул. Караткевіча

Летась у аршанскім музеі Ул. Караткевіча адбылася выстава вядомага мастака А. Марачкіна. На адным з палотнаў быў прадстаўлены партрэт знакамітага пісьменніка. Гэты твор пажадалі мецъ у сябе супрацоўнікі аршанскага музейнага комплексу "Гісторыя і культура Аршаншчыны" і абвясцілі збор сродкаў на яго набыццё.

**Дарэчы, карыстаючыся выпадкам, хочацца звярнуцца да чытачоў, найперш да мінчан, асабліва да пісьменнікаў: будынак музея Ул. Караткевіча ў Оршы цудоўны, а вось матэрыялаў у музеі малавата. Трэба яму дапамагчы паўней адлюстраваць жыццёвы і творчы лёс пісьменніка.**

***Генадзь ДОЙЛІД***

### Каб захаваць

# Горацкая сельгасакадэмія – цэласны архітэктурны ансамбль

**У лютым група спецыялістаў Беларускага камітэта міжнароднай рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС) сумесна з дэпартаментам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь па запрашэнні рэктара Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі А. Р. Цыганова пазнаёмілася з архітэктурнымі, гістарычнымі помнікамі г. Горкі Магілёўскай вобласці, музеем акадэміі, культурным краявідам, у якім месяцца гэтая найстарэйшая навучальная ўстанова нашай краіны.**

Перад спецыялістамі ў галіне аховы помнікаў і гістарычных ландшафтаў стаяла задача вызначыцца па пытанні вартаснага значэння архітэктурнай, гістарычнай і прыроднай спадчыны комплекснага помніка, якім з'яўляецца тэрыторыя і гістарычныя будынкі акадэміі.

З гістарычных крыніц, якія ўжо распрацаваны навукоўцамі ВНУ, акадэмічным музеем, Горацкім краязнаўчым музеем, добра вядома гісторыя стварэння акадэміі, асноўныя этапы яе існавання з 1836 года і развіцця. Але мала хто заўважыў, што гэтыя этапы знайшлі сваё адлюстраванне таксама ў арыгінальнай архітэктуры XIX стагоддзя, эпохі канструктывізму 1920 – 1930-х гадоў, збудаваннях "эпохі сталінскага барока" 1950-х гадоў, сучаснай архітэктуры. А ацалелая праз 150 гадоў паркавая зона, батанічны сад (старэйшы ў нашай краіне), доследныя палі – усё гэта дапаўняе і архітэктуру, і планіровачную структуру акадэмічнага гарадка, ставіць перад спецыялістамі праблему комплекснага захавання гэтага унікальнага помніка.

На жаль, сёння толькі некалькі архітэктурных помнікаў – будынкаў акадэміі – узяты на ўлік дзяржавай. Таму намеснік дырэктара дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь І. М. Чарняўскі, старшыня Беларускага камітэта міжнароднай рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС) У. А. Гілеп, якія ўзначалілі групу спецыялістаў, вызначыліся ў неабходнасці дадатковага, больш глыбокага, вывучэння комплекснага помніка, якім з'яўляецца ўся тэрыторыя акадэміі, і ўключэння яго ў больш вартасную ступень архітэктурнай і прыроднай спадчыны. На іх думку, якая супадае з поглядамі на гэту справу акадэмічнага кіраўніцтва, гэта дапаможа надаць акадэміі стымул для больш шырокага прыцягнення сродкаў на рэстаўрацыю спадчыны, павялічыць прэстыжнасць навучальнай установы – гэтай старэйшай сельскагаспадарчай ВНУ на прасторах Беларусі, Расіі і іншых краін СНД. Слушнымі былі і выказванні наконт развіцця ў гэтым рэгіёне экалагічнага і сельскага турызму.

***Рэдакцыя***

*Упершыню ў славянскім свеце*

**Гаворка пойдзе пра унікальнае выданне, зробленае упершыню ў славянскім свеце. Мы маем на ўвазе лінгвістычны кампендыум "Беларуская мова", падрыхтаваны аўтарамі Б. А. Плотнікавым, Л. А. Антанюк.**




Кампендыум (лац. compendium – скарачэнне) – новы манаграфічны жанр у беларускай лінгвістыцы, які дазваляе прадставіць аб'ёмны фактычны матэрыял у сціслай форме. Аўтары здолелі вырашыць складаную праблему: даць на высокім сучасным навуковым узроўні тэарэтычную характарыстыку беларускай мовы ва ўсіх аспектах (беларуская мова сярод іншых славянскіх моў, гісторыя беларускай мовы і навука аб ёй, стылістыка і культура маўлення, лексіка і фразеалогія, фанетыка і фаналогія, марфалогія і сінтаксіс, словаўтварэнне, лексікаграфія і фразеаграфія, дыялекталогія).

Значная ўвага аўтараў даследавання адводзіцца асаблівасцям утварэння і развіцця, тэрытарыяльнаму і сацыяльнаму чляненню беларускай літаратурнай мовы. Тут закранаецца і соцыялінгвістычны аспект існавання такой моўнай з'явы на тэрыторыі Беларусі, як трасянка, што з'яўляецца вынікам інтэрферэнцыі вусных варыянтаў беларускай і рускай мовы. Вельмі падрабязна прааналізавана агульнае і спецыфічнае ў лексіцы беларускай мовы ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі.

Бясспрэчную вартасць раздзелу гісторыі мовы надае тое, што аналіз мовы на розных этапах яе функцыянавання адбываецца з улікам жанравай прыналежнасці тых ці іншых помнікаў беларускай літаратуры, у выніку чаго аўтары падручніка вылучаюць наступныя падраздзелы: асаблівасці мовы рэлігійнай літаратуры, мова дзелавой старабеларускай літаратуры, моўныя асаблівасці мастацкай, мемуарнай, навуковай літаратуры. Такі падыход дазволіць карыстальнікам сфарміраваць комплекснае ўяўленне аб дынаміцы развіцця беларускай літаратурнай мовы і выпрацоўцы яе сістэмы функцыянальных стыляў.

Чытачы несумненна з зацікаўленасцю прачытаюць пра станаўленне мовазнаўчай навукі, а таксама пра дзейнасць выдатных асветнікаў і мовазнаўцаў розных часоў: Ф. Скарыны, С. Буднага, С. Полацкага, Я. Карскага, Б. Тарашкевіча і інш.

Значнасць і асаблівую вагу падручніку надае заключэнне, да напісання якога аўтары падышлі нетрадыцыйна і нефармальна. У гэтай частцы кнігі аўтары выказалі сваё стаўленне да прадмета даследавання. У кожным радку адчуваецца пачуццё горычы і болю за ўвесь лёс і сённяшні стан роднай мовы, але адначасова – неабыякавасць і непрыхаваная гордасць за тое, што мова, нягледзячы ні на якія цяжкасці, усё ж жывая. Мала таго – аўтары прытрымліваюцца аптымістычнага погляду адносна перспектывы развіцця нашай мовы і маюць на гэты конт адпаведную аргументацыю.

*І. Л. КАПЫЛОЎ,*
*кандыдат філалагічных навук,*
*С. Я. РАПАЦЭВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*
*(Газета "Новы час")*

# Ёсць такая мясцовасць

*"Ішлі тры браты: Хама, Карп і Абакум. Ішлі яны доўга. Старэйшы брат, Хама, стаміўся і астаўся, сярэдні прайшоў капку далей і застаўся тамака, а малодшы Абакум ішоў, ішоў і зайшоў кудысь: балоты, лясы. Ён і застаўся тутака, дзе наша вёска".*

Цяпер няма тых часоў, але ў Лоеўскім раёне засталася вёска са сваёй гісторыяй. Сёння ў вёсцы жывуць маладыя, старыя і старэйшыя людзі. Зараз вёска ажывае толькі ўлетку, калі сюды з'язджаюцца ўнукі, сыны і дочкі гэтай вёскі. У ёй прыкладна 150 хат, дзе жывуць мясцовыя і немясцовыя. Няма тут асфальтавай дарогі, затое ёсць крама і бібліятэка. Мясцовы клуб разбураецца, таму яго зачынілі. Ёсць тут "цывілізацыя" – тэлефон, радыё, электрычнасць, але толькі калі добрае надвор'е. Вёска сама малая і становіцца яшчэ меней (гэтая вёска памірае). Няма ўжо тут фермы, калгаса, але ёсць праца на сваёй гаспадарцы. Шмат мясцовых (збольшага – маладыя) ужо нельга назваць мясцовымі, бо галоўнае ў іх жыцці – выпіўка.

Але мы пойдзем далей, у глыб стагоддзяў, дзе ўсё пачыналася.

*"Дзед Лаўрэн калісь гаварыў, – успамінаюць мясцовыя, – што калісь Абакумы пачыналі строіцца на Балгане. Дак от, капліцу тамака пастроілі і ўсё такое, а первая паводка затапіла яго – такое месца. Ета даўно, дзед*




*Лаўрэн шчэ не знае. От тады тутака аказаўся бугор, дзе сечас Абакумы. Давай хаты цягнуць адтуляка сюды. У каго умерлыя былі, выкаплівалі і сюды на могілкі. Ета нам бацькі казалі, а ім іх бацькі".*

Калі паглядзім на саму вёску, то ўбачым яе тры асноўныя часткі: Бараўня, Балабахава, Цэнтр. Назвы, можа, паходзяць ад балота Баравога, спадара Балабахі, і – проста цэнтра.

Пойдзем далей і пачуем шмат чаго: Аблога, Аколіца, Пагоны, Бложкі, Хвойнік, Купша, Балонне, Цыркунова даліна і яшчэ шмат чаго. Яшчэ далей пойдзем, і з'явяцца больш спецыфічныя назвы. Бывае так: пытаеш якогась малайца, а ён і не ведае, дзе гэтыя Самынь (Самыня), Упуды, Мерквіца, Гуліна, Карашын, Каўроўе, Балган, Вялікае Балота і шмат чаго.

Але давайце зробім так: я раскажу пра мясцовасць праз назвы месцаў, праз адзіны шлях-агляд, які я заўсёды раблю, калі прыязджаю сюды.

Па-першае, я выходжу з хаты, а гэта ў Цэнтры, далей крочу на План (паляна), далей на Узвалле і Падузвалле (гара і нізіна). І вось я ўжо выйшаў з вёскі. Далей трэба ісці ўздоўж Балоння і Марындзёшына (лугі такія). І вось – Панскі лес, які належаў нейкаму пану, ад чаго і засталася назва. Пойдзем далей і пабачым межы паміж Панскім лесам і Свірэжай. Яны завуцца так: Раўчак і Бурчак (нізіна, дзе бягуць два раўчукі) – яшчэ іх называюць Бліжні Собаля і Дальні Собаля. А далей – магутны лес Свірэжа.

Шлях мой ідзе паўз Старык, Свірэжку (азярыны такія) і Карпаў востраў (ён востраў толькі ўвесну). А потым дзедава паляна – Іванава Гала, далей выходжу да Мерквіцы (глухое возера ў лесе), выходжу да самой ракі Нагуліна, далей па Бічавой (сцежка ўздоўж ракі Сож) і вось ужо балота Баравое.

Далей – драўляны насціл і пачатак вёскі Бараўні. Вось першая палова скончылася, за ёй – другая, праходжу паўз Бараўню ў Цэнтр, далей будуць Аблога, Аколіца (так называюць частку лесу, які ў сваю чаргу завецца Хвойнік). Далей ідзе і наш Кардон (Дняпро былы). Паўз наш Кардон да могілак пешкі – на Горы, на Гарбатыя (высокія месцы вёскі, падобныя на горы) – і аглядаеш свой родны кут – Мядзведжых Кут.

Там вось Дняпро, як направа глянеш, а налева Сож відаць, паміж імі Каўроўе (вялікі луг), Упуды, Самыня (азярыны) і Купша (балота).

Ідзеш тады дахаты праз Балабаху (жыхар быў такі) і Балабахаўку. Вось і ўсё. Вандроўка скончылася.

*Янка ОСІПАЎ,*
*студэнт 2-га курса Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта*

*Векапомнае*

# Сведкі расказваюць

***Шаноўная рэдакцыя!***

***Піша вам чытач вашай газеты. Я вучуся ў 11 класе Жораўскай сярэдняй школы Пухавіцкага раёна. Вельмі добра, што існуе такая патрэбная газета. Пазнаёміўся я з «КГ» нядаўна, а зараз пачаў выпісваць ваша выданне. Чытаючы ў газеце артыкулы, нарысы гісторыкаў, краязнаўцаў і аматараў, вырашыў: чаму б і мне не расказаць пра некаторыя старонкі гісторыі сваёй вёскі? А хачу дасласць вам аповед двух жыхароў маёй вёскі Энергія – Ніны Іванаўны Важнік і Рыгора Цімафеевіча Гляцэвіча, якія перажылі страшэнную навалу фашысцкай акупацыі.***

А было так. Стаяла гарачае лета. Дружная калгасная сям'я рыхтавалася да чарговай вясковай працы – сенакосу. Па нядзелях шмат людзей выязджала на базар: хто ў Пухавічы, хто ў Смілавічы, а нехта і ў Мінск. Так было і ў нядзелю 22 чэрвеня 1941 года. Вяскоўцы раніцай раз'язджаліся па сваіх справах, вярнуліся надвечар раней, са страшным словам на вуснах: "ВАЙНА". Людзі пабойваліся гаварыць адкрыта адзін аднаму аб тым, што здарылася. Баяліся гаварыць таму, што варта сказаць неасцярожна якое-небудзь слова, тым больш слова "вайна", як аб гэтым будуць ведаць у органах НКУС, дзе зробяць свае вывады. Экстранная нарада партыйнай арганізацыі і сельскага Савета ў другой палове дня ўнесла яснасць, што здарылася. Старшыня Дукорскага сельскага Савета Левін скарочана пераказаў выступленне па радыё Старшыні Савета Народных Камісараў СССР Вячаслава Молатава. Вайна паміж СССР і гітлераўскай Германіяй была абвешчана афіцыйна. Усеагульная мабілізацыя мужчынскага насельніцтва пакінула ў вёсках толькі старых, жанчын і дзяцей. Пастаянныя бамбёжкі, несціханы бой, масавая эвакуацыя людзей па блізкай шашы Мінск – Бабруйск – усё гэта стала паўсядзённай рэальнасцю. Навокал гарэлі вёскі, знішчаліся пасевы. Гэты страшэнны час бачылі простыя вяскоўцы, такія, як Гляцэвіч Рыгор Цімафеевіч, Важнік Ніна Іванаўна.

**ВАЖНІК Ніна Іванаўна:**

Як і ўсе людзі, пра вайну яна пачула па радыё. Было тады Ніне Іванаўне 14 гадоў. Першы раз прадстаўнікі новай улады прыехалі на матацыклах з мэтай нарабаваць. Пазней нямецкі гарнізон засяліўся ў вясковыя яслі. Мясцовых жыхароў часта зганялі на работы: капаць доты, мыць падлогу, абіраць бульбу. Асабліва запомнілася, калі немцы прымушалі хадзіць па разміраванне. Савецкіх грамадзян, у асноўным дзяцей і жанчын, ставілі ў шарэнгу, ззаду ішлі акупанты. Вяскоўцы павінны былі знаходзіць ускапаны дзёран, пад якім была схавана міна, і паведамляць нямецкім салдатам. Але «вясковыя сапёры», убачыўшы першую міну, прайшлі міма, пакінуўшы «маўклівую смерць» некранутай. Праз некалькі секунд за жанчынамі прагрымеў выбух, накрыўшы іх ударнай хваляй. Было зразумела: нямецкі салдат натрапіў. Да агульшаных сялян падышоў акупант і са злосцю прамовіў: «Рус нягут (нядобра), трэба было паказаць». Пазней аказалася, што аднаго немца разарвала на кавалкі, другога параніла. Боязь, што расстраляюць, нарастала, але жаданае слова немца – "нах хауз" (дадому) – прагучала. Потым забітага салдата павезлі на нямецкія могілкі ў Дукоры. У другі раз, калі сабралі на размініраванне, немцы далі кожнаму пронт – невялічкую палачку – памерам з аловак, якім трэба было ў зямлі шукаць міны. На гэты раз акупанты вырашылі: "І вашым, і нашым". Яны зноў паставілі людзей у шарэнгу, але побач з кожным беларусам стаяў нямецкі салдат, рад людзей быў пастаўлены па сістэме "немец – беларус – немец – беларус" і гэтак далей. На гэты раз абышлося без ахвяр. У Ніны Іванаўны ў партызанах была яе сястра, стаматолаг па прафесіі, Раковіч Таццяна, разам з мужам Шычко Аляксандрам. У раёне роднай вёскі дзейнічалі тры партызанскія атрады – гэта атрад Карашова з вёскі Клінок, атрад Вераб'ёва, які дзейнічаў на чыгунцы, і трэці атрад "Перамога" імя газеты "Праўда". Асабліва запомніўся вялізны пажар, які ўчынілі партызаны ў нямецкім лагеры, спаліўшы вялікае гумно з прыпасамі і яслі – месца жыхарства акупантаў.

Чырвонаармейцаў сустракалі са слязамі на вачах. Счырванелыя вызваліцелі гарцавалі на конях. Жыхаркі падносілі ім ваду, у адказ салдаты называлі іх сёстрамі. Уцякаючы, шмат немцаў утапілася ў рацэ Свіслач. А пакінутая імі кухня была хутка разабрана вяскоўцамі.

**ГЛЯЦЭВІЧ Рыгор Цімафеевіч:**

Упершыню нямецкія салдаты прыехалі на матацыклах з кулямётамі на калясках – напэўна, была разведка. Пакінуўшы матацыклы, немцы пайшлі збіраць курэй па хатах. А вясковыя мужчыны ў той час пачалі разглядаць машыны. «Вось бы ўгнаць» – прагучала нечая думка, але страх пераадолеў. Нарабаваўшы, вярнуліся салдаты. Іх насцярожыла празмерная цікавасць людзей. Яны навялі на мужчын кулямёт, і невядома, як бы ўсё скончылася, калі б не жонкі, якія ўгаварылі немцаў не страляць.

З першых дзён вайны Гляцэвіч Рыгор разам з сябрам Захарэнкам Васілём пачаў збіраць зброю. Аднойчы загадалі з'явіцца ў камендатуру ўсёй сям'і, сумненняў не было – немцы хацелі звезці ў Германію. Усёй сям'ёй вырашылі хавацца ў лесе. Пасля нядоўгага лясного жыцця Гляцэвіча Рыгора разам з бацькам забіраюць у партызанскі атрад. Атрад называўся "Перамога" імя газеты "Праўда". Партызанаў было чалавек 150, Гляцэвіч сярод іх быў трыццаць другім. Партызаны займаліся падрыўной работай. На ліку Рыгора Цімафеевіча асабіста падарваны нямецкі эшалон, узарваная грузавая машына, не адзін спалены мост. Раёнам баявога дзеяння стаў пасёлак Прывольны (МІс), што размясціўся ў трынаццаці кіламетрах ад месцазнаходжання партызанскага атрада.

Аднойчы ў лагеры пачулі прыглушаны далёкі стрэл. Спачатку вырашылі, што гэта група партызанаў нарвалася на нямецкі патруль. Але, як пазней дазналіся, гэта былі чырвонаармейцы. Група савецкіх танкаў атакавала знянацку застаных нямецкіх салдат. Атака праходзіла масіравана, танкі ішлі паралельна бабруйскай шашы. Праз некаторы час прыйшоў загад з брыгады да раніцы ачысціць дарогі ад завалаў і мін. Упершыню партызаны спаткалі чырвонаармейцаў каля вёскі Клінок. Салдаты адпачывалі. Першы раз за доўгі час ваеннага посту партызаны пакаштавалі дабротнай махоркі. А пасля курыва расслабіліся і... паснулі. Калі прачнуліся, чырвонаармейцаў ужо не было. Праз некаторы час быў дадзены загад ачысціць лясы ад нямецкіх салдат. А пазней паведамленне: "Прыехаць у Мінск на разбраенне".

***Васіль ІРЫМАКА***

P. S. А яшчэ ў мяне ёсць аповеды аб тым, як узніклі назвы вёсак нашага калгаса – "Камсамолец", "Энергія", "Жораўка", "Станкі", "Благадаць", "Вясёлае" і іншыя.

***Ад рэдакцыі.*** *Дзякуй, Васіль, за цёплы ліст і цікавы матэрыял. Безумоўна, дасылай свае назваными і іншыя, як пішаш, аповеды. Чакаем. Жадаем поспехаў у вучобе і спробе пяра.*





*Нечаканыя знаходкі*

## Калі капалі траншэю

Паблізу г.п. Карма, капаючы траншэю для ўкладкі газавых труб, рабочыя наткнуліся на рэшткі чалавека, мабыць, з часоў вайны. Пры ім былі патроны, а таксама асабістыя рэчы – акуляры, брытва, папера з запісамі.

І раней пры земляных работах знаходзілі чалавечыя рэшткі, прадметы матэрыяльнай культуры, але работы не заўсёды прыпынялі. Кармянцы праявілі ўвагу і павагу: працу спынілі і паведамілі пра нечаканую знаходку ў адпаведныя інстанцыі. Калі знойдуцца і іншыя сведчанні пахавання людзей, то траншэя пракладвацца не будзе, а пачне весціся прафесійная пошукавая работа.

*Моваю лічбаў*

## Лепш – у нас

Як нядаўна паведаміла газета «Рэспубліка», нямала жыхароў іншых краёў выбіраюць на сваё сталае жыхарства нашу краіну – летась 719 замежнікаў з 13 дзяржаў атрымалі ў нас статус бежанца: 521 – з Афганістана, 99 – з Грузіі, 28 – з Таджыкістана, 27 – з Азербайджана, 23 – з Эфіопіі, 9 – з Палестыны, 5 – з Ірана і г.д.

З 1997 года, з пачатку прызнання статуса бежанца і вымушанага перасяленца, папрасілі набыць яго звыш трох тысяч замежных грамадзян.

І яшчэ пра бежанцаў, але ўжо з іншых крыніц («АіФ», № 1, 2004): за 9 месяцаў 2003 года супрацоўнікі органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь выявілі 1 866 чалавек незаконных мігрантаў, 759 з іх былі выдалены з нашай краіны прымусова, у тым ліку і пад вартаю.



*Касцёл св. Іаана Хрысціцеля ў в. Гальшаны Ашмянскага раёна*

*Фота Паўла Каралёва*

# Чаму Вінтэрштэйны з Вушлава апынуліся ў Бурацii?

За паўтара кіламетра на паўночны захад ад Эсьмонаў Бялыніцкага раёна знаходзіцца невялічкая зараз вёсачка Вушлава. Яшчэ 80 – 90 гадоў таму яна была шматлюднейшай і багацейшай. Старэйшыя жыхары згадваюць, што ў 1930 – 1932 гадах у Вушлаве было 120 сядзіб, дзе жылі 340 вяскоўцаў.

Зрэшты, і сама назва вёскі гаворыць пра тое, што жылі ў ёй людзі «вушлыя», гэта значыць адукаваныя, прадпрымальныя, працалюбівыя і, калі хочаце, хітраватыя.

Аб лёсе адной з вушлаўскіх сем'яў мне і хочацца расказаць. Гэта – Вінтэрштэйны.

У 1948 годзе яны былі рэпрэсаваны і высланы ў пасёлак Каменск, што знаходзіўся ў халоднай Бураціі. Продак Аляксандра Емельянавіча Вінтэрштэйна апынуўся на Эсьмоншчыне ў 1812 годзе. Ён быў кананірамаднаго з палкоў генерала Даву, паходзіў з роду сілезскіх дробных дваран. Пасля таго, як партызаны Дзяніса Давыдава вызвалілі Бялыніччы ад французскіх уланаў, кананіры і пяхота адступілі да Эсьмон.

Давыдаў загадаў партызанам незаўважна падысці да вёскі, на рацэ раскідаць мост і сустрэць адступаючых з засады. У выніку французскае войска, сярод якога знаходзіўся і Альбрэхт Вінтэрштэйн, панесла ў Эсьмонах вялікія страты. Перабрацца на той бераг рэчкі давялося нямногім. Апынуўся сярод гэтых шчаслівых і Альбрэхт.

Паранены, у падраным мундзіры, ён дапоўз да крайняй вушлаўскай хаты, у якой жыла ўдава мясцовага млынара Латурыўса. Жанчына выратавала Альбрэхта. А той, бачачы пяшчотнасць і спачуванне ад прыгожай і разумнай жанчыны, папрасіў яе рукі і сэрца.

Зажылі яны дружна і бязбедна. Неўзабаве ў сям'і нарадзіліся два сыны – Еўлампій і Ягор. Дапамагалі яны бацькам працаваць на млыне, адкрылі ўласную хлебапякарню. У 60 – 70 гады XIX стагоддзя Еўлампій адчыніў і бровар, які прыносіў сям'і неблагі прыбытак.

Ягор і Еўлампій таксама арэндавалі ў князя Міхаіла Раманава вушлаўскія землі.

Сем'і кожнага з братоў мелі па пяцёра дзяцей, якіх змалку прывучалі да ашчаднасці. Старэйшыя сыны братоў, Емяльян і Максім, асвойвалі навукі купецкія ў Барысаве. Вярнуўшыся ў Вушлава, яны з імпэтам прыняліся за новую справу – заснавалі дрэваапрацоўчае прадпрыемства.

Але адбылася рэвалюцыя. Вінтэрштэйнам давялося забыцца на сваю прадпрымальнасць, свае багацці. Сын Емяльяна Аляксандр, адным з апошніх уступіў у калгас «Шлях Ільіча», які быў створаны ў Вушлаве ў 1933 годзе. Разумеючы небяспеку аднаасобніцтва, Аляксандр з болем у сэрцы адвёў на калгасны двор чатырох кароў, двух коней, адвёз сельскагаспадарчую тэхніку і інвентар. Пра спадчыну прадзеда імкнуўся не згадваць, сам спаліў стары млын, тартак (лесапілку). З'яўляючыся інвалідам ад нараджэння (кульгаў), Аляксандр Вінтэрштэйн не служыў у Чырвонай Арміі. У гады Вялікай Айчыннай вайны рамантаваў абутак, збіраў зброю для партызан.

Сям'я яго ўцалела ад расстрэлу ў ліпені 1942 года, калі фашысцкія карнікі правялі аблаву на мясцовых яўрэяў. Аляксандр з жонкай і двума дзецьмі ўжо стаялі ў шарэнзе прыгавораных. Выратавала веданне нямецкай мовы, на якой ён звярнуўся да афіцэра і сказаў, што яго продкам з'яўляўся немец з Сілезіі.

Вінтэрштэйнаў вывелі з шарэнгі. Жонка, Агрыпіна Ягораўна, тады горка заплакала, кажучы, што гэта іхняй сям'і яшчэ прыпомніцца...

Словы жанчыны аказаліся прарочымі. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пачаліся сталінскія праверкі людзей, якія вымушаны былі жыць на акупіраванай тэрыторыі.

Аляксандра Емяльянавіча і Агрыпіну Ягораўну выклікалі спачатку ў Бялынічы, затым – у Магілёў. Патрабавалі пацвярджэння несупрацоўніцтва з фашыстамі, непадтрымання сувязяў са сваякамі ў Германіі. Правяраючых цікавілі прычыны выратавання сям'і ад расстрэлу ў 1942 годзе.

Доказаў у Вінтэрштэйнаў не было. У сакавіку 1948 года паводле рашэння абласнога ўпраўлення НКУС гэта сям'я была выслана ў Бурацкую АССР.

Па дарозе да месца высылкі ў Агрыпіны Ягораўны пачаліся роды. Нарадзілася дзяўчынка, якую назвалі Верай. Але маці памерла.

У пасёлак Каменск А. Е. Вінтэрштэйн прыехаў з пяццю дзецьмі – малодшай было два дні, старэйшаму – 12 гадоў. Разам з імі ўсе гады высылкі знаходзілася і жонка малодшага брата Мікалая – Аляксандра, які зімой 1943 года загінуў на Кругляншчыне.

У 1992 годзе Вінтэрштэйны былі рэабілітаваны.

**Таццяна ШАСТАК, настаўніца Эсьмонскага КШС Бялыніцкага раёна**

*Радзім ГАРЭЦКІ*

# Мінеральныя рэсурсы Беларусі

*з кнігі «Вечна жыве Беларусь!»*

*(Заканчэнне. Пачатак у № 1 – 6.)*

Як яскрава бачна з пераліку мноства карысных выкапняў, якія ўтрымлівае беларуская зямля, традыцыйнае ўяўленне аб беднасці нетраў Беларусі павінна быць адкінута. Шэраг відаў мінеральнай сыравіны ўжо здабываецца, але большасць яшчэ нерухома ляжыць у зямлі, а многія чакаюць сваіх адкрыццяў.

Новыя палітычныя і эканамічныя ўмовы самастойнай Беларусі патрабуюць і новы, больш гаспадарчы падыход да мінеральных рэсурсаў. Неабходна распрацоўка спецыяльнай дзяржаўнай праграмы па праблемах мінеральнай сыравіны. Патрэбна глыбокая эканамічная ацэнка мінеральна-сыравіннай базы. Адсутнасць навукова распрацаванай ацэнкі каштоўнасці карысных выкапняў у нетрах і практыка дармавой перадачы іх запасаў прамысловай вытворчасці робіць уражанне, што багацце нетраў для грамадства не мае цаны. Прыняты закон аб нетрах не павінен застацца толькі на паперы. Багацце нетраў – багацце народа. Але яно не павінна падначальвацца ведамаму безгаспадарчаму прынцыпу «все вокруг колхозное – все вокруг мое». Пакуль прадпрыемствы зацікаўлены ў найбольш поўным выкарыстанні нетраў, усе мерапрыемствы па зніжэнні стратаў карысных выкапняў будуць мець фармальны характар.

Незалежнасць краіны патрабуе карэннай змены кіравання народнай гаспадаркай, замены многіх структур урада, многіх кіраўнікоў, якія засталіся з часоў каманднa-адміністрацыйнай сістэмы. Апошняе асабліва важна, бо сучасная гаспадаркай незалежнай краіны можа кіраваць толькі высокакампетэнтны спецыяліст. Час, калі дзейнічаў прынцып «где бы ни работать, лишь бы руководить», прайшоў. Аб гэтым прыходзіцца нагадваць, бо да нашага часу многія кіруючыя асобы, узгадаваныя на сістэме валюнтарызму і бяздумнага выканання загадаў зверху, лічаць, што кіраваць можна любым напрамкам прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры, навукі, адукацыі, не маючы для гэтага спецыяльнай падрыхтоўкі.

Цяпер геалагічная служба Беларусі рэзка скарацілася, раскідана па розных міністэрствах і ведамствах. Яе галоўнае ядро – былое «Белгеалогія» належыць да Міністэрства прыродных рэсурсаў, сярод кіруючых кадраў якога няма ніводнага спецыяліста-геолага. Для пошукаў новых карысных выкапняў, разведкі і распрацоўкі ўжо вядомых радовішчаў, эканамічнай ацэнкі мінеральных рэсурсаў і іх выкарыстання, а таксама для вядзення агульнай мінеральна-сыравіннай палітыкі неабходна стварыць спецыяльнае міністэрства ці асобны камітэт геалогіі і выкарыстання мінеральных рэсурсаў (можа, і ў рамках Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя).

Ва ўсіх краінах свету, як і ў былым СССР, так і некаторых дзяржавах СНД, вялася і праводзіцца дзяржаўная геалагічная здымка па тапаграфічных лістах усёй тэрыторыі, прычым маштаб такой здымкі павялічваецца ад дробнамаштабнай (1:1 млн, 1:500 тыс.) да больш буйной (1:200 тыс., а затым і 1:50 тыс., 1:10 тыс.). Краіны Еўропы ўжо поўнасцю пакрыты буйнамаштабнай здымкай, якая праз некаторы час зноў паўтараецца. Цяпер мы павінны праводзіць не проста геалагічную здымку, а эколага-геалагічную ці нават здымку прыроднага патэнцыялу. Комплекс карт прыроднага патэнцыялу павінен складаць шэраг самых разнастайных карт: геалагічных, геафізічных, геамарфалагічных, геахімічных, гідрагеалагічных, глебавых і г. д. Ва ўмовах Беларусі асабліва важна сістэматычна праводзіць здымку распаўсюджвання радыенуклідаў – ад асобных абласцей і раёнаў да кожнай гаспадаркі і асабістай сядзібы. Радыенукліды мігрыруюць, адбываюцца змены па плошчы іх утрымання, таму патрэбна рэгулярная перыядычнасць правядзення такіх работ. Неабходна шырокае давядзенне вынікаў да насельніцтва. Карты прыроднага патэнцыялу – база не толькі для пошукаў карысных выкапняў, але і асновы для любых народна-гаспадарчых дзеянняў. Аснова правільнага асваення любой тэрыторыі, рацыянальнага прыродакарыстання, бяспечнага існавання чалавека і прыроды, канструявання гармоніі чалавека і прыроды. Кожная вобласць краіны, кожны раён павінен мець камплект карт прыроднага патэнцыялу. Аптымальна весці ўсю народную гаспадарку можна толькі на падставе такіх карт, якія аб'ектыўна даюць комплекснае веданне прыроднага патэнцыялу вобласці, раёна, любога аб'екта гаспадарання. Гэта – галоўная праца міністэрства (ці камітэта) геалогіі.

Апрача таго, яно павінна праводзіць дзяржаўнае зацвярджэнне запасаў радовішчаў розных карысных выкапняў, складаць іх кадастр і баланс, праводзіць інспекцыю дзяржаўнага геалагічнага кантролю, экспертызу ўсіх відаў геолагаразведачных работ, мець рэдакцыйна-выдавецкі савет па зацвярджэнні і выданні геалагічных і іншых карт, геалагічны фонд і бібліятэку справаздач, графічных матэрыялаў, даведачна-інфармацыйны цэнтр з банкам геолага-геафізічных і іншых дадзеных і г. д. Патрэбна не змяншаць, а пашыраць геалагічныя арганізацыі – напрыклад, у Германіі кожны рэгіён («зямля»), а ён не большы па плошчы, чым наша вобласць, мае сваю геалагічную службу. Неабходна дэталёвае вывучэнне шматлікіх рудапраяўленняў, зон і кропак мінералізацыі, якія ўжо выяўлены геолагамі ў фундаменце і асадкавым чахле, з мэтаю пераводу некаторых з іх у ранг радовішчаў. Патрэбна рэвізія і ацэнка многіх геахімічных анамалій.

У сваёй дзейнасці міністэрства (камітэт) геалогіі і мінеральных рэсурсаў павінна апіраца на акадэмічную і галіновую навуку. На жаль, у Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі навукі аб Зямлі таксама не маюць належнага развіцця. Неабходна стварыць самастойнае аддзяленне навук аб Зямлі (як гэта ёсць у акадэміях большасці краін свету) і пашырыць яго шэрагам інстытутаў (водных праблем, геаграфіі і інш.). Даўно не стае нашай краіне і добрага геалагічнага музея.





*Па замове Браслаўскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і ахове навакольнага асяроддзя музей падрыхтаваў невялікую кніжку “Браслаўшчына: прырода і людзі”, у якой разглядаюцца гістарычныя аспекты адносін чалавека і прыроды на прыкладзе нашага раёна. Праца павінна была пабачыць свет яшчэ ў 2002 годзе. Аднак з прычыны фінансавых цяжкасцей выданне прыйшлося адкласці на больш позні тэрмін. Прапануем увазе чытача адзін з раздзелаў кніжкі: “Прырода супраць чалавека”. У ім сабраны сведчанні аб неспрыяльных для чалавека праявах прыроды, зафіксаваных у гістарычных крыніцах.*

# Прырода супраць чалавека



*Ледзяныя таросы на беразе воз. Дрывяты. 1929 г.*

У свядомасці кожнага чалавека ўжываюцца два асноўныя пачуцці да прыроды. З аднаго боку – пачуццё ўдзячнасці за тыя дарункі і ласкі, якія дзесяткі пакаленняў людзей бяруць ад прыроды, з яе невычэрпных багаццяў. З другога боку – пачуццё страху і бездапаможнасці перад прыроднай стыхіяй, рознымі прыроднымі з’явамі, якія мацней за чалавека. З развіццём чалавечай цывілізацыі абодва гэтыя пачуцці слабеюць. Мы менш звяртаем увагу на тое, што існуем дзякуючы прыродзе і ўсё больш верым у веліч і пераможнасць чалавечага розуму. Аднак мы ўсяго толькі часцінка прыроды, і ніколі не след забываць яе ўрокі.

Браслаўшчына – рэгіён з мяккім кліматам, далёкі ад небяспечных сейсмічных зон, ад прыбярэжных тэрыторый з іх разбуральнымі тайфунамі. Тым не менш і ў нас адбываюцца прыродныя катаклізмы, якія часам выклікаюць непрадказальныя наступствы.

У гістарычным архіве Літвы зберагаецца журнал школьнага жыцця і гарадскіх падзей, які вялі ў пачатку XIX стагоддзя навучэнцы Віленскай гімназіі. У 1804 г. адзін са школьных інспектараў з Вільні, праглядаючы журнал, прадпісаў надалей запісваць у ім надзвычайныя прыродныя з’явы. Дзякуючы гэтаму мы можам скласці ўяўленне пра некаторыя з іх:

24 мая 1808 г. ... а 4 гадзіне ўзнялася бура, ... град, у некаторых месцах знесены дахі і разбураны дамы.

31 мая 1810 г. Пасля цудоўнага надвор’я а 4-й гадзіне дня раптоўна ўзнялася бура, потым прайшоў праліўны дождж, нарэшце выпаў такі густы град, што за хвіліну пакрыў усю зямлю. Градзіны дасягалі буйных памераў, пры падзенні іх моц была незвычайнай: нават у цвёрдай глебе заставаліся выбаіны. Пашкоджана шмат хат, вокнаў, дахі знесены.

1811 год. З надыходам вясны і на працягу ўсяго лета былі надзвычай частыя пажары, увесь час не было дажджу. З гэтай прычыны самыя ўрадлівыя землі, нават найбольш дагледжаныя, ледзьве вярнулі насенне, а на іншых усё загінула.

21 ліпеня 1828 г. У Браслаўскім павеце 19, 20 і 21 ліпеня на працягу трох дзён ішоў заліўны дождж. Усе яравыя пасевы, у асаблівасці авёс, былі прыбіты да зямлі. З найлепшага зерня не тое што колас, а нават салома загінула... Небасхіл увесь быў зацягнуты хмарамі, і перад жыхарамі прадстала сумнае відовішча... Сенажаці не толькі ў нізінах, але і ў больш высокіх месцах аказаліся пад вадой... грэблі, масты, млыны разбураны і знесены патокам... Гэта здарэнне выракае многіх жыхароў на галечу і пагібель.

Цікава адзначыць, што праз 100 гадоў, у 1928 г., зноў прайшлі моцныя дажджы, якія выклікалі небывалы голад. Цяжка ўявіць, але ў гэтым годзе 80 % дзён былі дажджлівымі. Увесну шмат якія гаспадары не змаглі засеяць свае ўчасткі зерневымі. Нават той, хто здолеў адсеяцца, усходаў не дачакаўся. Сенажаці ўсё лета прастаялі ў вадзе. Сяляне спрабавалі касіць траву, стоячы па калена ў вадзе, але сена хутка псавалася і было прыдатна толькі на подсцілку. Жывёла засталася без зімовых кармоў. У верасні дождж ліў не перастаючы два тыдні, а потым 48 гадзін доўжыўся лівень з ураганным ветрам. Азёры, рэкі выйшлі з берагоў. Вуліца Пілсудскага (сучасная Ленінская) у Браславе была цалкам заліта вадой. Напрыканцы верасня рэзка пахаладала, мароз даходзіў да 2 градусаў. 20 кастрычніка на палетках ужо ляжаў снег. Ураджай канчаткова быў знішчаны. Увесну 1929 г. у сялян скончыліся ўсе запасы і пачаўся голад. Ён ахапіў значную частку Віленшчыны, але найбольш пацярпелі Браслаўскі і Дзісенскі паветы. У сакавіку адна з віленскіх газет пісала: “У Друі становішча настолькі катастрафічнае, што ўлады ўстанавілі там кухню, якая бясплатна выдае абеды”. Для таго, каб пракарміць жывёлу, вяскоўцы зрывалі са стрэх салому. Сітуацыя пагаршалася з кожным днём. У красавіку быў утвораны нацыянальны камітэт дапамогі ахвярам голаду. Грошы для пацярпелых збіралі не толькі ў Польшчы, але і за мяжой. Голад адступіў толькі ўвосень 1929 г., але яго наступствы адгукваліся і ў 1930 г. У 1934 г. зноў было шмат дажджоў, зноў пачаўся голад, але ў значна меншых маштабах.

У зімовы час шмат клопатаў людзям дастаўлялі снежныя завеі. Вёскі заносіла снегам, сумёты перакрывалі рух на дарогах. У 1929 г. мацнейшыя снежныя буры лютавалі пад канец зімы па ўсёй Віленшчыне. На Браслаўшчыне пазамятала ўсе важнейшыя гасцінцы, а вузкакалейка Друя–Браслаў–Дукшты не працавала некалькі тыдняў. У 1932 г. над Браслаўшчынай пранеслася снежная бура, якая знесла стрэхі ў 17 хатах, абарвала электрычныя і тэлефонныя лініі, паваліла шмат дрэў, зноў надоўга спыніла рух на чыгунцы.

Пасля снежных зім вялікія клопаты даставілялі паводкі на рэках. Часам яны набывалі катастрафічны характар, бо на рацэ Заходняя Дзвіна ўздым вады дасягаў 13 м, а на рацэ Дзісна – 8 м. Максімальны пад’ём у гэтых рэках быў зафіксаваны ўвесну 1931 г. Вада цалкам затапіла гарады Дзісну і Друю, дзесяткі вёсак у наваколлі, пад вадой апынулася Казяншчына. 30 красавіка 1930 г. віленская газета “Слова” пісала: “Большая частка горада Друя знаходзіцца пад вадой; 264 дамы аказаліся цалкам затопленымі, вывезена 1 657 чалавек. У асноўным пацярпелі самыя бедныя жыхары, дамы якіх знаходзіліся каля самай ракі. Вада заліла 2 цэрквы, шэраг будынкаў чыгуначнай станцыі, аддзяленне паліцыі, гміннае праўленне, паштовую кантору, электрастанцыю, пагранзаставу і інш... Акрамя Друі, вельмі пацярпела тэрыторыя Відзскай гміны і мястэчка Казяны, дзе большасць сяліб стаіць пад вадой... У павеце 800 сем’яў патрабуюць тэрміновай падтрымкі”. Моцная паводка была на Браслаўшчыне і ў 1956 г., калі Заходняя Дзвіна зноў затапіла значную частку Друі і навакольныя вёскі.

У параўнанні з рэкамі азёры не прыносілі столькі клопатаў. Ваганні ўзроўню вады ў іх звычайна невялікія. Часцей за ўсё падтапліваліся сенажаці і пашы. Нават у Браславе дамы і гаспадарчыя пабудовы цярпелі ад вады вельмі рэдка. Аб адным з такіх выпадкаў у пачатку XX стагоддзя захавалася архіўнае сведчанне: “Вада так паднялася, што дайшла да паштовай дарогі каля падэшвы гары з яўрэйскімі могілкамі. Дарога часткова была заліта. Жыхары м. Браслаў засведчылі, што ў выніку паводкі пад вадой апынулася паласа агародаў шырынёй 50 – 60 сажняў (сажань – 2,134 м), даўжынёй да 4 вёрст (вярста – 1 052 м), прычым вада стала даходзіць да хлявоў і хат, некаторыя пабудовы стаялі ў вадзе”.

У 1929 г. Браслаў сутыкнуўся з вельмі моцным націскам азёрнага лёду. У тым годзе таўшчыня лёду даходзіла да 50 см, і ён раставаў даволі марудна, прычым, як заўсёды, з берагоў. Неўзабаве на азёрных хвалях гайдалася велізарная крыга. У канцы красавіка некалькі дзён запар дзьмуў моцны паўднёвы вецер. Ён пагнаў ледзяную пліту ў бок Браслава. Рух лёду быў павольны, амаль непрыкметны, аднак меў страшэнную сілу. Былы староста Браслаўскага павета З. Янушкевіч успамінае: “Капітальны драўляны будынак пажарнай варты з залай і сцэнаю быў зняты з падмурка і перанесены на 10 метраў. Зразумела, што коміны, печы, дзверы і вокны былі знішчаны. Лёд знёс яшчэ некалькі дамоў і каля дзесяці гаспадарчых пабудоў... Гасцінец Браслаў – Опса ля Браслава... быў поўнасцю знесены. Тут утварылася звалка ледзяных глыб вышынёй 6 – 8 метраў. Сасновы лес за в. Заборныя Гумны быў вырваны з каранямі і перанесены на 10 – 30 метраў у глыб ад берага. Ніколі не забуду відовішча: старыя, магутныя сосны, выдраныя з каранямі, якія перасоўваліся часам стоячы, і знявечаная зямля вакол”.

Шмат непрыемнасцей прыносілі людзям моцныя навальніцы, ураганныя вятры, смерчы, град. У XIX ст. нават адзначалі, што частыя навальніцы з градам з’яўляюцца асаблівасцю клімата Браслаўшчыны і звязвалі гэта з вялікай колькасцю азёр. За перыяд 1843 – 1852 гг., калі ў Ковенскай губерні праводзіліся метэаназіранні, па колькасці навальніц з градам Браслаўшчына заняла другое месца ў губерні. Моцны град мог прычыніць шмат шкоды. Вось, напрыклад, некалькі паведамленняў на гэту тэму: “24 ліпеня 1895 г. у Відзскай воласці градам пабіта зерневых на 250 дзесяцінах, страты склалі 10 590 руб., 26 ліпеня 1895 г. градам у Дрысвяцкай воласці знішчана пасеваў на 3 600 руб.” Доўгі час у жыхароў рэгіёна жыла памяць пра незвычайную па моцы навальніцу 30 чэрвеня 1812 г. падчас праходжання праз Браслаўшчыну напалеонаўскіх войск, навальніцу з шалёным ураганам 4 чэрвеня 1855 г., ад якой пацярпела шмат будынкаў. Дарэчы, памятнай для сялян была зіма 1838 г., калі пры моцных маразах не выпала ніводнай сняжынкі. Мароз настолькі скаваў зямлю, што дзе-нідзе яна не адтала нават у чэрвені. Частай з’явай у вёсках і мястэчках былі пажары ад удару маланкі. Ахвярамі маланкі (“перуна”) станавіліся людзі, хатняя жывёла. Пра такія здарэнні ёсць шмат сведчанняў у архіўных дакументах, у старых газетах.

Асабліва баяліся шаравой маланкі, прырода якой была яшчэ больш незразумелай для простых людзей.

Сюрпрызаў можна было чакаць і з боку жывёльнага свету. Вядомы мемуарыст К. Завіша пакінуў нам звесткі аб дзвюх навалах саранчы, якія зачапілі і Браслаўшчыну: “У 1690 годзе ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім з’явілася саранча, якая пакрыла ўсе палі, шкодзіла жытнім пасевам, лугам. Нават свойскія свінні дзічэлі ў лясах, не ішлі да хат, не давалі зачыніць сябе ў хлявах... У 1711 годзе зноў наляцела саранча, было яе на гэты раз нязмерна болей, і была яна чорная і вялікая. Дзе яна пралятала і асядала, нават саломы не заставалася. Ляцела саранча, нібыта хмара, нават неба не было відаць...”

У гадзіны войнаў і ліхалеццяў па лясах у вялікай колькасці разводзіліся ваўкі. Ваўчыныя зграі рабілі напады на свойскую жывёлу сялян. Былі ахвяры і сярод людзей. Пасля Першай сусветнай вайны зафіксавана некалькі такіх здарэнняў. У сакавіку 1923 г. ваўкі загрызлі Юрыя Балочку. У другім выпадку воўк напаў на селяніна, які працаваў на ўласным падворку.

Да 30-х гадоў у наваколлі Браслава размяшчалася некалькі соцень гектараў лятучых пяскоў, на якіх амаль нічога не расло. Пры моцных вятрах гэтыя пяскі маглі перасоўвацца. Самыя дробныя пясчынкі хмарамі праносіліся па мястэчку. Жыхары Браслава, як адзначалі ў XIX – пачатку XX стагоддзя, даволі часта пакутвалі ад розных хвароб вачэй. Гэта непрыемная з’ява знікла, калі па ініцыятыве ўлад на пясках былі пасаджаны сасновыя лясы, якія сёння з’яўляюцца неад’емнай česткай краявідаў Браслава.

***Разбуральная моц прыродных катаклізмаў ужо не падаецца нам такой страшнай, як жыхарам мінулых стагоддзяў. Аднак і жыхары XXI стагоддзя не застрахаваны ад “сюрпрызаў” прыроды.***

***Кастусь ШЫДЛОЎСКІ,***
***навуковы супрацоўнік гісторыка-краязнаўчага музея***

***(Паводле газеты «Правінцыя»)***




***Фота Міхася ХАМЦА***



*Запісаць паданні і данесці іншым*

*Легенды*

## Гняздзін

У тыя пракаветныя часы Гняздзін быў зусім маленькай вёсачкай. І яе вельмі аблюбавалі буслы. А гэтае здарэнне надарылася яшчэ тады, калі буслы ў вырай не ляталі. Яны жылі з людзьмі зімой, сябравалі з людзьмі.

А вораг роду людскога, чорт, не любіць, калі ўсё ідзе добрым ладам.

Вось і вырашыў чорт пасварыць людзей з бусламі. І дабіўся нячысцік свайго. Сталі гняздзінцы злоснымі, нецярпімымі, крыўдзілі адзін аднаго, жывёл і птушак перасталі шанаваць.

Неяк увосень сабраліся ўсе буслы і пакінулі гэтых людзей: засталіся на дрэвах толькі іхнія гнёзды. І так іх многа было, што вёску назвалі Гняздзін.

Праз некалькі гадоў буслы даравалі-такі людзям крыўду і вярнуліся па вясне на радзіму. Але зноў доўга вытрымаць цяжкога характару гняздзінцаў не змаглі і цяпер ужо назаўсёды пакінулі гэту вёску. А разам з імі зляцелі і многія птушкі.

*Распавядала Еўдакія Патапаўна Казлова*

## Асавец

Гэта было вельмі даўно, калі не было яшчэ самой вёскі, а на месцы яе стаяў хутар. Належыў ён маладому і вельмі прыгожаму пану. А на панскай гаспадарцы працавала няпісанай прыгажосці дзяўчына Ася.

Малады паніч Вацлаў і Ася пакахалі адзін аднаго. Ды бацькі Вацлава не дазволілі ім ажаніцца. І маладыя вырашылі: лепей памерці разам, чым жыць не сумесна.

Аднойчы на світанні, калі сонейка толькі-толькі пачало ўзыходзіць, яны, узяўшыся за рукі, пайшлі няведама куды. Болей іх аніхто ані разу не бачыў і нічога пра іх не чуў.

Мясцовыя людзі вельмі іх любілі, часта ўспаміналі пра іх нешчаслівую долю. Каб ушанаваць памяць пра закаханых, склалі разам іх імёны – Асавец, і далі гэтае найменне сваёй вёсцы.

**«Бялыніцкая даўніна»**

# «Звіні, наднёманская ліра!»

## *Літаратурнае краязнаўства ва Уздзенскай ЦБС*

***Каму даводзілася бываць на Уздзеншчыне, ведае, які песенны гэты край. І менавіта тут бярэ выток славуты Нёман.***

### Уздзеншчына – калыска Нёмана...

А дзе як не па-над калыскаю складаюцца самыя задушэўныя, цудоўныя песні? Можа, таму так вольна і шырока струменіць з уздзенскай зямлі яшчэ адна рака – песенная. У яе звонкай плыні пераклікаюцца больш за паўтара дзесятка літаратурных галасоў: Фадзея Булгарына і Кандрата Крапівы, Паўлюка Труса і Пятра Глебкі, Алеся Якімовіча і Антона Бялевіча, Ілы Гурскага і Сымона Баранавых, Іосіфа Мазуркевіча і Алеся Махнача, Лідзіі Арабей і Віктара Казлоўскага, Канстанціна Шавеля і Васіля Гурскага, Уладзіміра Кісялёва, Паўла Германа, Васіля Шырко...

Не кожны куточак Беларусі можа пахваліцца такой літаратурнай кагортай! Пісьменнікі-ўздзенцы вызначаюцца асаблівa глыбокай павагай, сыноўняй любоўю і пяшчотай да роднага краю і яго працавітых людзей. Часта прыязджаюць яны на сустрэчы з землякамі, і тады адбываюцца сапраўдныя літаратурныя святы. Самыя цесныя сувязі з пісьменнікамі-ўздзенцамі склаліся ў работнікаў бібліятэк раёна. Пры такой багатай спадчыне літаратурнае краязнаўства займае цэнтральнае месца ў краязнаўчай рабоце ЦБС. І бібліятэкары падыходзяць да яе творча, ініцыятыўна, шукаюць новыя і цікавыя формы працы.

### Каб фонды папаўняліся

Мы імкнёмся забяспечыць паўнату дакументаў, якія маюць дачыненне да творчасці кожнага пісьменніка-земляка. Дзеля гэтага выкарыстоўваем розныя каналы і крыніцы: пастаянна працуем з бібліяграфічнымі і інфармацыйнымі выданнямі, планамі выпуску літаратуры розных выдавецтваў, уважліва прачытваем перыёдыку, вядзём рэтраспектыўны пошук у масіве беларускай літаратуры. Апошнія тры гады актыўна супрацоўнічаем з абменна-рэзервавым фондам Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Мы прадставілі ў гэты фонд картатэку персаналій пісьменнікаў, нашых землякоў, і цяпер пастаянна атрымліваем ад іх літаратуру дадзенага профілю. Сярод атрыманых выданняў асаблівую каштоўнасць уяўляюць зборнік паэзіі П. Труса 1934 года выдання, газета ваеннага часу «Раздавім фашысцкую гадзіну!», рэдактарам якой быў К. Крапіва і дзе часта друкаваўся А. Бялевіч.

Крыніцай папаўнення фонду літаратурнага краязнаўства з'яўляюцца дарэнні ад саміх пісьменнікаў. Так, Алесь Махнач падарыў бібліятэцы ў роднай вёсцы Забалоцце не толькі поўны збор сваіх твораў, але і значную частку рукапісаў. Пастаянна дораць бібліятэкам свае кнігі В. Шырко, Л. Арабей, В. Кісялёў, Д. Слаўковіч, сябры літаб'ядання «Нёманец». Мы збіраем кнігі пісьменнікаў-землякоў, літаратуру пра іх жыццё і творчы шлях, фотаздымкі, аўдыёвізуальныя матэрыялы, ствараем папкі-персаналіі, для чаго выкарыстоўваем публікацыі ў перыядычным друку. І ўсё гэта падрабязна адлюстроўваецца ў краязнаўчай картатэцы.

### Праект «Уздзеншчына літаратурная»

Значна ажывілася літаратурнае краязнаўства дзякуючы праекту «Уздзеншчына літаратурная». Над ім ужо тры гады працуюць бібліятэкі раёна, рэдакцыя раённай газеты, літаб'яднанне «Нёманец». Задача праекта – пошук і збор твораў пісьменнікаў, якія нарадзіліся на Уздзеншчыне, прапаганда сярод насельніцтва творчасці пісьменнікаў-землякоў і мясцовых літаратараў, асвятленне ў друку гэтых пытанняў.

У ходзе пошукаў адкрыты новыя літаратурныя імёны. Гэта паэты-«маладнякоўцы» Пётр Герман і Аляксандр Карачун, творчасць якіх не паспела расквітнець, бо яны былі рэпрэсаваны.

Бібліятэкамі сабраны багаты матэрыял па творчасці В. Казлоўскага, К. Шавеля, А. Махнача, В. Шырко, І. Гурскага і іншых і аформлены ў альбомы і тэматычныя папкі. Нёманскай і Лошанскай сельскімі бібліятэкамі зроблены літаратурныя візіткі «Мая вёска ў творчасці паэтаў-землякоў». Кожная бібліятэка штогод праводзіць творчую справаздачу ў выглядзе літаратурных і тэматычных вечароў, прэзентацый новых кніг, удзельнічае ў традыцыйным літаратурным свяце «Крыніц жыватворных вытокі».

Значнае месца ў праекце адведзена выдавецкай дзейнасці і папулярызацыі твораў землякоў праз сродкі масавай інфармацыі. Так, Цэнтральнай раённай бібліятэкай выдадзены зборнік легенд «Былых часоў паўстання...». Зборам матэрыялу займаліся ўсе бібліятэкары Уздзеншчыны, і зборнік склалі ў асноўным легенды, запісаныя ад старажылаў.

Бібліятэкары дапамагаюць мясцовым літаратарам падрыхтаваць да выдання іх кнігі, сочаць за іх публікацыямі, пастаянна папаўняюць папкі з надрукаванымі ў часопісах і газетах іх творамі.

На тэматычнай старонцы «Спадчына» ў раённай газеце рэгулярна друкуюцца матэрыялы па літаратурным краязнаўстве. Наспела пытанне і аб стварэнні электроннай базы краязнаўчых дадзеных. Штуршком гэтаму паслужылі праца бібліятэкараў па падрыхтоўцы матэрыялаў для кнігі «Памяць» і знаёмства з аматарам-краязнаўцам В. Лычкоўскім, які стварае краязнаўчы сайт. На сённяшні дзень ужо падрыхтаваны біяграфічныя звесткі пра ўсіх пісьменнікаў Уздзеншчыны, займаемся інфармацыяй па літаратурным аб'яднанні «Нёманец».

### Кожнаму – да сэрца

Праца па літаратурным краязнаўстве вядзецца дыферэнцавана, з улікам інтарэсаў розных груп чытачоў. Гэтаму садзейнічаюць клубы па інтарэсах пры бібліятэках: «Спадчына» пры Лошанскай, «Забалоцкія вячоркі» пры Забалоцкай, літаратурна-мастацкая гасцёўня «У Паўлюка» пры Цэнтральнай раённай.

Не так ужо і шмат у рэспубліцы бібліятэк, якім прысвоены імёны беларускіх пісьменнікаў. Уздзенская раённая бібліятэка носіць імя паэта Паўлюка Труса з 1960 года. Гэта да многага абавязвае і накладвае свой адбітак на яе працу. Мы імкнёмся ствараць атмасферу пастаяннай прысутнасці паэзіі П. Труса. Паэт сустракае чытачоў задуменна-натхнёным позіркам з барэльефа мемарыяльнай дошкі на будынку бібліятэкі (скульптар У. Лятун); у чытальнай зале разгорнута экспазіцыя «Яго імя носіць наша бібліятэка»; назвы розным краязнаўчым выданням мы імкнёмся даць трусаўскім радком, як, напрыклад, зборніку легенд «Былых часоў паўстання...»

У агульнай справе важную ролю адыгрывае і гасцёўня. Праз яе дзейнасць моладзі прывіваецца любоў да роднай літаратуры, паэзіі, людзі адчуваюць повязь часоў і пакаленняў, іх яднае далучанасць да ўзвышанага. Пасяджэнні ў гасцёўні спалучаюць у сабе прапаганду творчасці народных умельцаў, мясцовых мастакоў і літаратараў. І гэта невыпадкова: вядома, што і сам П.Трус спалучаў у сабе талент паэта і дар мастака. Выстаўкі майстроў народнай творчасці, экспазіцыі мастакоў тут пастаянныя.

Частыя госці ў літаратурна-мастацкай гасцёўні «У Паўлюка» – сябры літаб'яднання «Нёманец». Ва ўтульнай прыязнай атмасферы адбываюцца прэзентацыі іх зборнікаў, сустрэчы з пісьменнікамі – землякамі і гасцямі Уздзеншчыны. Штогод 5 мая, у дзень нараджэння Паўлюка Труса, праходзяць паэтычныя чытанні, у якіх удзельнічаюць школьнікі, літаратары, бібліятэкары.

Восем вуліц нашага горада носяць імёны пісьменнікаў-землякоў, што таксама ў полі ўвагі бібліятэчных работнікаў. Дзякуючы іх стараниям нарадзілася і прыжылася традыцыя наладжваць святы «літаратурных» вуліц.

### «Нёманец»: свая старонка ў летапісе края

Любоў да літаратуры, творчасці сабрала «пад дахам» літаб'яднання «Нёманец» каля чатырох дзясяткаў чалавек. Яго сябры – людзі рознага ўзросту, розных прафесій і інтарэсаў. Сёння самай малодшай з іх, Лізе Ліпай, 8 гадоў, а самаму старэйшаму – пад 80. Літаб'яднанне больш за 10 гадоў працуе пры раённай газеце «Чырвоная зорка» і Цэнтральнай раённай бібліятэцы. Прыкметна ажывілася яго дзейнасць з 1993 года, калі па ініцыятыве бібліятэкі быў выдадзены першы калектыўны зборнік вершаў «Зямля мая, край маляўнічы». Праз год, да 500-годдзя Узды, убачыў свет наступны зборнік – «Край мой там, дзе Нёман льецца».

На рахунку аб'яднання шмат цікавых спраў. Гэта сустрэчы з чытачамі бібліятэк, школьнікамі, удзел у буйных раённых мерапрыемствах – Свята кнігі, Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі і музыкі. Сябры літаб'яднання напісалі п'есу і паставілі па ёй літаратурна-гумарыстычны спектакль «Вакол Янкі і ягонай п'янкі».

Вялікай папулярнасцю карыстаюцца і творчыя конкурсы, што праводзяцца да знамянальных літаратурных дат. Першы такі конкурс адбыўся да 100-годдзя з дня нараджэння К. Крапівы ў 1996 годзе, называўся ён «Жыве між нас крапівінскае слова». Тая назва стала пазней дэвізам да ўсёй работы па прапагандзе творчасці К.Крапівы. А крапівінскія конкурсы праходзяць амаль штогод: да 60-годдзя напісання несмяротнай камедыі «Хто смяецца апошнім» – «Свінтус-грандыёзус – 99»; да 80-годдзя пачатку літаратурнай дзейнасці К. Крапівы – «Пасмяёмся разам». Сёлетні літаратурны конкурс прысвячаецца 80-годдзю пачатку літаратурнай дзейнасці Паўлюка Труса і будзе называцца «О край родны, край прыгожы!» Конкурсы садзейнічаюць творчаму росту іх удзельнікаў, прапагандзе беларускай літаратуры і мовы.

Вынікам мінулага дзесяцігоддзя сталі кнігі В. Гурскага, якога прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, В. Сабалеўскага, З. Калкоўскай, В. Кіслага, М. Караля, а таксама шматлікія публікацыі ў рэспубліканскім і мясцовым друку, удзел у стварэнні зборніка «Бацька наш Нёман», які выйшаў у 2001 годзе ў выдавецтве «Юнацтва».

Мінулы год быў азнаменаваны новым калектыўным паэтычным зборнікам – «Звіні, наднёманская ліра!» Ён аб'яднаў 39 аўтараў. І ў кожнага з іх свая манера пісьма, свой творчы почырк. Але ўсе яны ўносяць свой уклад у летапіс роднага краю, у гісторыю беларускай літаратуры, якую на Уздзеншчыне любяць, праз якую імкнуцца спасцігнуць агульначалавечыя і вечныя каштоўнасці.

***К. РОГАВА, дырэктар Уздзенскай ЦБС***





# Уніяцкая царква ў Стоўбцах
## і яе душпастыр айцец Леў Гарошка

У міжваенны час у Стоўбцах дзейнічала уніяцкая парафія. Капліца, у якой збіраліся вернікі на малітву, была на так званых польскіх могілках. Я сустрэлася з тымі людзьмі, якія памятаюць пра тую капліцу, якія туды заходзілі.

***З успамінаў жыхаркі Стоўбцаў Алены Нікадзімаўны Падбелай*** *(1927 г.н.): "Уніяцкая капліца была маленькая, драўляная. Пасярэдзіне яе быў іканастас. Было там прыгожа, асабліва на святы (Вялікдзень, Вадохрышча і інш.). Набажэнствы былі такія ж самыя, як і ў праваслаўнай царкве. Малітвы чыталіся на царкоўнаславянскай мове. На жаль, прозвішча уніяцкага святара не запомніла. За капліцай знаходзіўся помнік воінам 1812 года. Пасля вайны капліцу разабралі".*

***З успамінаў жыхара Стоўбцаў Аркадзя Уладзіміравіча Змачынскага****: "Уніяцкая капліца мела высокі фундамент, бо заходзіць трэба было па прыступках. Капліцу вянчаў купал. Пры немцах уніяцкая царква яшчэ стаяла, у ёй адбываліся набажэнствы. Ведаю, што спяваў у царкве Іван Падбела".*

Нейкі час тут працаваў і выдатны беларускі грэка-каталіцкі святар айцец Леў Гарошка. Нарадзіўся Леў Гарошка 26 лютага 1911 года ў вёсцы Трашчычы ў колішнім Стаўпецкім павеце. Быў ахрышчаны ў праваслаўнай царкве ў Турцы. Сям'я Харошкаў (гэтак калісьці называліся Гарошкі) афіцыйна была праваслаўнай, хоць жылі ў ёй традыцыі Уніі. Дзед будучага грэка-каталіцкага святара быў надзвычай набожным, спяваў старыя уніяцкія песні і захоўваў традыцыі старой веры.

Леў скончыў сямігодку ў Міры, пасля якой у 1928 годзе паступіў у беларускую гімназію ў Навагрудку. У 1931 годзе ён паступіў у Львоўскую грэка-каталіцкую духоўную акадэмію, дзе правучыўся 5 гадоў (1931 – 1936). Як аднаго з лепшых студэнтаў яго накіравалі на вышэйшыя студыі ў Аўстрыю, у Інсбрук. Там ён вучыўся ў 1936 – 1937 гадах. 17 кастрычніка 1937 года у Львове біскуп Мікіта Будка ў прыватнай капліцы мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага высвяціў Льва Гарошку на святара. Дарэчы, падчас таемнасці прысутнічаў і сам мітрапаліт.

У жыцці Льва Гарошкі распачынаўся новы перыяд – служэння Богу і беларускаму народу. Умовы для гэтага ў свеце ды ў Беларусі былі больш чым цяжкія. Айцец Гарошка спачатку быў прызначаны ў Любешаў на Палессі, дзе душпастырскай працай займаліся капуцыны ўсходняга абраду. Адтуль кожную суботу і нядзелю ён прыязджаў у в. Угрынічы. Хутка польскія ўлады зачынілі Угрыніцкую царкву, і набажэнствы пачалі адпраўляцца ў маленькай капліцы сёстраў-законніц. Аднак і гэтую капліцу польскія ўлады апячаталі разам са святымі дарамі, бо ўбачылі ў дзейнасці уніяцкіх святароў пагрозу паланізацыйным працэсам.

З Любешава а. Леў Гарошка быў пераведзены Пінскім рымака-таліцкім біскупам Букрабам у в. Гарадная. І тут польскія ўлады чынілі перашкоды ягонай душпастырскай дзейнасці, сачылі за кожным крокам, за кожным словам святара. Каб перашкодзіць нармальнай працы, улады прызначалі розныя штрафы і пакаранні. Нягледзячы на вялікую прыхільнасць вернікаў, а. Леў вымушаны быў прасіць царкоўныя ўлады, каб яго перавялі ў іншае месца. Тады ён быў прызначаны ў Стоўбцы памочнікам а. Селецкаму, украінцу. Тут ён заставаўся да 15 мая 1939 года, калі загадам навагрудскага ваяводы быў прымусова і назаўсёды выселены з памежнай паласы. Прычынай стала шчырая беларускасць а. Льва.

16 кастрычніка 1946 года Кангрэгацыя Усходніх Цэркваў накіроўвае яго ў Парыж і прызначае рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі для душпастырскай дзейнасці сярод мясцовых беларусаў-эмігрантаў. Да 1958 года Леў Гарошка жыў і вельмі плённа працаваў у Парыжы, дзе фактычна адзін рэдагаваў беларускі рэлігійна-грамадскі часопіс "Божым шляхам" (заснаваны ім у 1947 годзе). У 1970 годзе а. Леў Гарошка пераязджае ў Рым, дзе працуе на пасадзе кіраўніка беларускай секцыі "Радыё Ватыкана" і адначасова з'яўляецца рэктарам каталіцкай місіі ў Францыі.

28 ліпеня 1977 года, падчас аперацыі ў парыжскім шпіталі, гэты ўсебакова адораны і працавіты беларускі святар-патрыёт памірае ад сардэчнага прыступу на 66-м годзе жыцця. 8 жніўня 1977 года яго пахавалі на могілках св. Панкрата ў Лондане.

Айцец Гарошка – аўтар некалькіх дзесяткаў кніжак і навуковых прац на самую розную тэматыку. Большасць з іх, на жаль, яшчэ мала вядома на Бацькаўшчыне. Вось толькі найбольш значныя, выдадзеныя ім працы: філасофска-тэалагічны твор "Душа" (Парыж, 1948), прыродазнаўчая кніжка "Паходжанне чалавека ў святле сучасных фактаў" (Парыж, 1948), гістарычныя кнігі "Святая Ефрасіння-Прадслава Полацкая. Патронка Беларусі" (Парыж, 1950), мовазнаўчая праца "Своеасаблівасці беларускае мовы" (Парыж, 1951), "Беларусь у датах, ліках, фактах" (Парыж, 1953). Леў Гарошка напісаў вялікія гістарычныя працы "Прычыны паланізацыі на Беларусі" (1955), "Пад знакам "рускае" і "польскае" веры" (1954 – 1955), "Навука і рэлігія" (Рым, 1977), грэка-лацінска-царкоўнаславянска-беларускі слоўнік, слоўнік беларускіх прыказак і прымавак. Яго пяру належаць дзесяткі цікавых апавяданняў на хрысціянскую тэматыку, якія ён падпісваў псеўданімам Анатоль Жменя. Усе пералічаныя творы друкаваліся прынамсі ў эміграцыі. Але яшчэ шмат цікавых матэрыялаў на гісторыка-рэлігійную тэматыку, а таксама няскончаныя ўспаміны а. Л. Гарошкі, якія чыталіся аўтарамі ў беларускіх перадачах "Радыё Ватыкана" застаюцца зусім невядомымі для беларускіх даследчыкаў.

***Святлана АДАМОВІЧ,***
***бібліятэкар, г. Стоўбцы***

**На фота:** гэтыя пліты з алтарнай часткі – усё, што засталося ад уніяцкай капліцы, дзе служыў а. Леў Гарошка



# Слова пра БССР

*Гісторыка-літаратурнае эсэ*

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*

***(Заканчэнне.)***

Зміцер Жылуновіч пабыў старшынёй Часовага рэвалюцыйнага ўрада Савецкай Беларусі з месяц, у тых цяжкіх умовах ды пад кантролем Мяснікова не мог шмат чаго зрабіць. Але важнае, нават гістарычнае, іншае: у сцвярджэннях як БНР, так і БСР былі – Беларускай Рэспублікай; БСР праіснавала нядоўга, да 27 лютага 1919 года, да ўсяго ва ўсечаным аб'ёме, бо на І Усебеларускім з'ездзе Саветаў мяснікоўцы Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні перадалі РСФСР; 27 лютага абрэзкі Беларусі па загадзе ЦК РКП(б) штучна злілі з Літвой і ўтварылі Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку са сталіцай у Вільні і на чале з В. Міцкевічам-Капсукасам. Другі раз БССР абвясцілі 31 ліпеня 1920 г. у Мінску. Але з якім фарсам, здзекам! Новая БССР складалася з... шасці паветаў Мінскай губерні!!! А ў 1921-м на перамовах з палякамі ў Рызе нікога з беларусаў туды не дапусцяць, а Заходняй Беларуссю адкупяцца! Мабыць, толькі з аднымі беларусамі можна паводзіцца вось так! Добрыя, цярплівыя, непатрабавальныя, усё сцерпяць!

Яшчэ раз ведайма пакутлівы, жудасны лёс амаль усіх, хто ўтвараў і БНР, і БССР: за вельмі рэдкім выключэннем амаль усіх спачатку зганьбілі, зрабілі ворагамі сваіх жа дзядоў і бацькоў, свайго народа, а затым перастралялі. Мяснікоўцаў – у тым ліку. Зм. Жылуновіча – першага старшыню беларускага савецкага ўрада – зневажалі, білі так, што ён па-чалавечы не вытрымаў маральных, фізічных здзекаў і звар'яцеў. Звар'яцелага, яго, мабыць, па-садысцку забілі.

**БР**... Вось як давалася яна нам у 1917 – 1921-я гады, і вось якая вялікая, наскрозь набрынялая крывёю была за яе плата. Зразумела, тыя лепшыя сыны нашага народа дзеля яе, Бацькаўшчыны, пайшлі на пакуты, а то, як і Хрыстос, на крыж. Хрыстос стаў пракорам, настаўнікам, заснавальнікам новага сусветнага вучэння. А нашы пакутнікі-настаўнікі, заснавальнікі нашай дзяржавы? Хоць крыху ведаем мы іх, шануем?

**БНР**... Хто так ці гэтак заявіў яе, аддаў сваё маладое жыццё за святую справу, былі: А. Аўсянік, П. Бадунова, А. Бурбіс, Я. Варонка, З. Верас, А. Гарун, Т. Грыб, К. Езавітаў, В. Захарка, Ус. Ігнатоўскі, П. Крачэўскі, Я. Мамонька, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, браты Луцкевічы, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч, І. Серада, Б. Тарашкевіч, А. Цвікевіч, У. Фальскі і яшчэ тысячы і тысячы іншых. З іх, амаль усіх рэабілітаваных у 50-я і 90-я (праўда, было і такое: рэабілітоўвалі, але пра гэта маўчалі, каб і далей імя было пад забаронаю), толькі лічаныя ўпамінаюцца ў энцыклапедыях і падручніках; помнікаў, назваў вуліц у іхні гонар асабіста я не ведаю.

**БССР**... Вялікі, вельмі вялікі спіс пакутнікаў, ахвяр і за яе. У 50-я аднавілі добрае імя некаторых з іх, найбольш ушанавалі А. Чарвякова (назвай вуліцы ў Мінску, выбраным артыкулаў і прамоў, успамінамі пра яго); Зм. Жылуновіча доўга прызнавалі толькі як пісьменніка Цішку Гартнага, як палітычнага і дзяржаўнага дзеяча поўнасцю рэабілітавалі... толькі ў 90-я і ягоным імем таксама назвалі вуліцу... на мінскай ускраіне і паставілі сціплы помнік на радзіме.

Зміцер Жылуновіч і А. Чарвякоў, бясспрэчна, буйныя асобы, без іхняга аўтарытэту, без іхняй кіпучай дзейнасці было б нялёгка дабіцца БССР, але і ім адным гэта было б не па сілам, за імі былі Белнацкам, беларускія камуністычныя секцыі, розныя грамадскія і культурна-асветныя суполкі з дзесяткамі тысяч актывістаў, з сотнямі тысяч спачуваючых.

Сёння нямногія могуць ясна і выразна сказаць, хто такія і Жылуновіч, і Чарвякоў, а пра тых маладых, адукаваных, шчырых і сумленных, што памаглі ім здзейсніць патрыятычны подзвіг, бадай, мала хто ўвогуле што чуў. А яны ж дбалі пра нас, за што іх дачасна звялі ў магілу альбо як бяспраўных рабоў нялітасціва мучылі ў лагерах. Гэта Балбека (на жаль, і я не ведаю імён некаторых), Баркоўскі, Бяганскі, Дзедзя, Я. Дыла (загадчык мануфактурнага аддзела Цэнтрсаюза, рэкамендаваўся Жылуновічам на пасаду наркама фінансаў), М. Драка-Дракон (паліткамісар 1-га Полацкага беларускага савецкага палка, рэкамендаваўся наркамам па ваенных справах), Жукоўскі, І. Зыбко (яго альбо Найдзёнава з мяснікоўскіх шэрагаў бачылі на пасадзе наркама дзяржкантролю, але Мяснікоў зажадаў мецць для сябе больш надзейнага), А. Квачанюк (ад мінскай беларускай секцыі РКП(б), рэкамендаваўся на пасаду наркама замежных спраў), Клыш, Крыцкі, Я. Лагун (адзін з бліжэйшых паплечнікаў Жылуновіча і відных дзеячаў Белнацкама, рэкамендаваўся на пасаду наркама ўнутраных спраў, дзядзька адной нашай пісьменніцы, але яна па нейкіх прычынах рашуча адмовілася даць пра яго якія-небудзь звесткі: «Пішыце тое, што ведаеце»), І. Мазур (мой зямляк па Стаўбцоўшчыне, сакратар Белнацкама, рэкамендаваўся на пасаду наркама земляробства. Яго сынвыкладчык спадабаўся мне, але, на вялікі жаль, мала што мог расказаць пра бацьку, яго сяброў і іхнія добрыя справы ў маладосці: быў яшчэ малы ў 30-я, калі бацьку схапілі. Помніць сам ды з матчыных аповедаў, што ў іх былі і А. Чарвякоў, і Зм. Жылуновіч, і зямляк Якуб Колас (ён, Колас, пэўны час нават даваў ім прытулак у сваім доме), былі і іншыя і вялі сур'ёзныя, цёплыя, а часамі і занепакоеныя размовы пра трагедыю беларускай нацыі), Макарэвіч, Я. Нёманскі (разам з Жылуновічам рэдагаваў «Дзянніцу», да 1937-га – пісьменнік, акадэмік, нейкі час быў намеснікам старшыні Дзяржплана БССР), І. Няцэцкі, Ю. Памецкі (Памейка?), Пратакоўскі, І. Пузыроў (быў адзін з лідэраў РКП(б) у Тамбове, рэкамендаваўся на пасаду наркама працы), Русецкі, Я. Рыбак (механік маскоўскага галоўпаштамта, рэкамендаваўся на пасаду наркама поштаў і тэлеграфаў), Свуніц, Салтанаў, У. Скарынка, А. Усціловіч (той, хто разам з Жылуновічам, Чарвяковым вёў цяжкія, гнятлівыя перамовы з Мясніковым і Сталіным, захоўваючы жалезную вытрымку), У. Фальскі (акцёр, спрыяў справе БНР, рэкамендаваўся на пасаду наркама сацыяльнага забеспячэння і аховы здароўя), В. Ханін, Хрэнаў, Зм. Чарнушэвіч, Ф. Шантыр (чырвонаармеец, не раз і не два па-хамску прыніжаны Мясніковым, рэкамендаваўся на пасаду наркама юстыцыі, быў камісарам па нацыянальных справах, пісаў прозу, памёр яшчэ ў 1920 годзе)... Магу назваць яшчэ дзесяткі прозвішчаў, а іх, паўтару, маладых, адукаваных, здольных, таленавітых, шчырых, сумленных, верных сыноў беларускага народа, былі дзесяткі тысяч, як і былі сотні тысяч спачуваючых!

Хочаш ці не хочаш, але трэба прызнаць: люта ненавідзячы і бэсцячы БНР, усімі д'ябальскімі сіламі супраціўляючыся, каб не было БССР, ды ўсё ж па загадзе мусячы сцвярджаць БР – Беларускую Рэспубліку, бралі ўдзел у беларускай справе і мяснікоўцы. Я не хачу, болей за тое, – мне прыкра пералічваць іхнія імёны, хоць як літаратар з гістарычным ухілам павінен быць аб'ектыўным. Прабачце, але вялікая неаб'ектыўнасць у тым, што мяснікоўцы, якія з 1917-га закладвалі ў нас свае ідэі, сваё вяршынства, нецярпімасць да іншых думак і поглядаў, дэмагогію, фальш, хлусню, фальсіфікацыю, тэрор і, яшчэ раз паўторым, дзіка-пячэрную нянавісць да ўсяго беларускага, – во жах: у нас, ва ўсіх нашых гарадах і вёсках ушанаваныя як героі. Таксама няшчасныя (знішчаныя ў 30-я), тым не менш яны з таго свету нахабна паказваюць кожны дзень, кожную хвіліну нам хвігі, красуючыся з шыльдаў, назваў і з розных кніг-брашур і па-ранейшаму бессаромна, груба, па-сатанінску насміхаючыся з нас, даверлівых і ўгодлівых. Тыя ж, хто любіў родны край, яго мову і культуру, дбаў пра ўвесь наш народ, плачуць з магіл: мы аддалі за вас самае каштоўнае – сваё жыццё і жыццё нашых самых блізкіх, а вы!.. Эх вы!.. Дзе ваша гістарычная памяць, нацыянальная і чалавечая годнасць?! Няўжо назваць вас, жывых, нібыта людзей, таўкачамі з таўкачоў у свеце?!

**Неабальшавікі, у першую чаргу неамяснікоўцы, бывае, і цяпер казыраюць: усе мы выйшлі з 1919-га! Нядобра, але паколькі мне і ў сне не даюць спакою тыя беларусы, героі маіх раманаў, мушу закончыць сваю гаворку на горкай ноце: так, у XX стагоддзі мы выйшлі з 1917-га, але не далёка, мы застылі ў ім...**

**2000 – 2001**





# Яны адступалі да Парыжа...

***Беларусы ведаюць пра вайну 1812 года ад Льва Талстога. Вялікаму майстру слова ўдалося пераканаўча паказаць пакуты і велічнасць рускага духу ў той вайне. Між тым у супрацьстаянне Напалеона Банапарта і Аляксандра I так ці інакш былі ўцягнуты іншыя народы, у тым ліку і беларусы.***

У апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай незалежнасць і самастойнасць беларусаў была толькі на паперы. На сеймах беларуская шляхта звяртала ўвагу на гаротны стан сялян, шукала ў караля заступніцтва, аднак лепшай долі для сябе беларусы тады так і не адшукалі. Само слова ліцвін (беларус) гучала як абраза, як прыкмета беднасці духу і матэрыяльнай нястачы.

Кацярына II сілай далучыла беларусаў да «даброт» расійскай цывілізацыі, але наша насельніцтва адкрыта выступала супраць прыгнёту.

Беларусь рабавалася. У 1800 годзе некалі заможныя землі спасціг голад. Ён набыў такія памеры, што Павел I вымушаны быў накіраваць на Беларусь спецыяльную камісію на чале з паэтам Г. Дзяржавіным. Вывады гэтай камісіі былі несуцяшальнымі: беларусы ядуць мякіну і снітку, гаспадарка іх разбурана, большасць сялян наймысна споена адміністрацыяй маёнткаў і знаходзіцца ў даўгавой гарэлачнай кабале. У зоне аселасці, якой быў аб'яўлены наш край, цвілі хцівасць і ашуканства, тут песцілася непавага да сумленнай працы. У далечыні ад Санкт-Пецярбурга расійская адміністрацыя багацела на поўным ігнараванні законаў.

У такую Беларусь і рушыў Напалеон.

Ранкам 24 чэрвеня 1812 года яго амаль 700-тысячнае войска перайшло Нёман і паглыбілася на нашу тэрыторыю. Сам Банапарт кіраваў групоўкай, што наступала ў напрамку Вільня – Дрыса – Полацк – Віцебск. Яго брат Жэром наступаў на поўдні на Слонім, Нясвіж, Бабруйск, Магілёў, Мсціслаў. У цэнтральныя раёны, не прыкрытыя расійскімі войскамі, скіраваліся часці маршалаў Даву і Віктара. Шлях іх быў нялёгкім.

Вось што запісалі рускія следчыя на допыце палоннага французскага салдата:

«...Хлеба у солдатов нет, а берут его грабежом и реквизицией, люди часто терпят голод, лошади довольствуются подножным кормом... От обывателей ничем французы не пользуются от того, что на всей дороге, где они за нами проходили, жителей нигде почти нет, что везде забрано все русскими и что они нигде ничего не достают...»

Расійскія войскі пры адыходзе палілі назапашаныя беларускімі сялянамі запасы збожжа, фуражу і харчу, забіралі з сабой коней і, не ўступаючы ў значныя бойкі, адыходзілі на ўсход да Смаленска. Пры наступленні гэтак жа паводзілі сябе і французы. Таго, хто кідаўся бараніць сваё дабро, забівалі. Праз колькі дзён разрабаваная Беларусь аказалася ва ўладзе Напалеона.

З дадатка да данясення генерала Баграціёна імператару Аляксандру ад 26 чэрвеня (Нясвіж):

«...Не далее как вчера еще, зная уже о приближении неприятельских сил к Минску и о стремлении занять оный прежде меня, с полной надеждой на храбрость войск, считая противу себя у Минска неприятеля хотя в шестидесяти тысячах, я был в решительности атаковать его, пробиться в соединение к первой армии... Но к крайнему прискорбию, удостоверившись в непомерном превосходстве сил неприятельских, от Вильно через Вилейку у Минска показавшихся, от Воложина на Раков и Радошковичи туда же следовавших и угрожавших мне со стороны Новогрудка, следуя при сем неотложно... Высочайшему повелению поставлен был в необходимость переменить мое предприятие...»

За два дні да прыходу войск імператара Напалеона горад Мінск спешна пакінулі рускія чыноўнікі. Выязджалі сем'ямі, са скарбам, абозамі цераз Барысаў у кірунку на Маскву.

З данясення Мінскага грамадзянскага губернатара Дабрынскага ад 27 чэрвеня 1812 года:

«...Напоследок по выступлении из Минска помянутых двух пехотных полков в ночь на 25 число примечено в городе (имеющем несколько десятков военнослужащих из внутренней стражи) необыкновенное между жителями волнение, родившееся наипаче от того, что город остался без близкой защиты; некоторые из жителей видели уже неприятельские команды не в дальнем от Минска расстоянии, и слухи о последнем, то есть о неприятельском, приближении распространялись более и более. То я, видя сие и близкую опасность от неприятеля, не препятствовал коронным чиновникам следовать в Борисов, а потом, бывши уже один в городе при вышеупомянутой команде из внутреней стражи, выехал и сам, поруча наблюдение за порядком и за остатком, ежели какие будут, магистрату.»

Мінск здалі без бою.

Мінчукі радаваліся ўцёкам царскіх чыноўнікаў, але і хваляваліся: тая невядомая магутная сіла, аб якой хадзіла столькі супярэчлівых чутак, магла прынесці як свабоду, так і пакуты.

Ноч на 25 чэрвеня прайшла ў трывожным чаканні. Дзе-нідзе чуліся стрэлы. Каб не дапусціць разбою, рабавання і падпалаў, днём таго ж дня гараджанамі быў утвораны орган самакіравання – часовая Рада. Яе старшынёй быў абраны маршалак першага дэпартамента Мінскага галоўнага суда Л. Камінскі, а сябрукамі – маршалак другога дэпартамента таго ж суда Ходзька, паветовы маршалак Мінскага павета Ігнась Манюшка і сябрукі мінскага магістрата. Радзе стала вядома, што да горада набліжаецца войска на чале з маршалам Даву. Было вырашана сустракаць французаў з урачыстасцямі.



Раніцай 26 чэрвеня 1812 года мінская дэпутацыя на чале з прэзідэнтам Камінскім і маршалкам Манюшкам выехала за горад для вітання. Праз дзве вярсты адбылася сустрэча, і праз якую гадзіну на мяжы горада ля Ракаўскай заставы французскі картэж з хлебам і соллю віталі маршалак Ходзька, князь Міхал Пузына і мінскі падкаморы Слераўскі. Пры гэтым яны адзначылі, што гараджане ўдзячныя Напалеону і вітаюць яго ў асобе маршала Даву. Французскі палкаводзец сустрэў прамову з прыхільнасцю і ў сваю чаргу адзначыў, што непераможнае войска Напалеона прыйшло не няволіць, а вызваліць беларусаў і палякаў, прыйшло вярнуць ім Айчыну. «Альбо велізарныя полчышчы ворагаў пакрыюць зямлю трупамі сваімі, альбо цэласнасць Айчыны нашай будзе вернута і ўплыў расійскі на інтарэсы Еўропы ўкарочаны быць мусіць», – зазначыў ён.

Пры ўездзе ў Мінск французаў віталі гараджане. Магістрат са сваімі цэхамі падсцілаў ім пад ногі харугвы. Калі маршал Даву са сваім штабам прыбыў на пляц Высокага рынка, дарогу яму заступілі мілавідныя абывацелькі, усцілаючы жывымі кветкамі шлях высокага госця. Чуліся воклічы: «Няхай жыве Напалеон Збавіцель!» Радасны настрой узмацнялі гукі музыкі, што даносіліся з ганка ратушы.

Між тым вайна была вайной. З прыходам французаў рабункі ў горадзе не перапыніліся. На вуліцах пачалі знаходзіць нябожчыкаў. Разабрацца, хто і за што пазабіваў іх, было немагчыма. Французы лічылі, што гэта справа мясцовых бандытаў. 13 ліпеня дэкрэтам Даву быў утвораны першы афіцыйны орган новай улады – камісія Мінскай рады пад старшынствам часовага Мінскага губернатара брыгаднага генерала *Barbenegre*. На наступны дзень гэта камісія звярнулася да гараджан з абвяшчэннем іх вызвалення, сваіх паўнамоцтваў і заклікала дапамагаць імператарскаму войску. Праз два дні ў Мінск прыбыў і пастаянны губернатар – паляк па паходжанні, генерал французскага войска Бранікоўскі. Неадкладна з ліку гараджан былі вызначаны 24 асобы, адказныя за папаўненне харчовых і фуражных запасаў расквартараванага войска, прызначаны паштовы начальнік і іншыя чыноўнікі. У пракламацыі мінчан заклікалі захоўваць спакой, добрасумленна выконваць рэквізіцыі, папярэджвалі аб жорсткім пакаранні марадзёраў. Барацьба з апошнімі была ўскладзена на мясцовую жандармерыю. На дарогі былі накіраваны асобыя мабільныя атрады з правамі ваеннага суда, якія сачылі за парадкам у наваколлі. 10, 13, 16 ліпеня ў Мінску прайшлі публічныя пакаранні як рабаўнікоў, так і тых, хто купляў у іх крадзенае. Праўда, асаблівага эфекту гэта не дало. Горад па распараджэнні Напалеонаператвараўся ў адзіны агромністы шпіталь і склад. Ён стаў зборным пунктам для адстаўшых часцей яго арміі і паступова навадняўся вайскоўцамі самых розных нацыянальнасцяў. Салдаты, якія так і не разумелі сэнс свайго паходу на Усход, стомленыя і расчараваныя, самі былі не супраць рабункаў і гвалту. У адносінах да простых абывацеляў яны дзейнічалі толькі загадам. Ішоў пошук памышканняў пад лазарэты і склады, людзей высялялі з дамоў. Да таго ж улады аб'явілі аб пошуку грошай, якія належалі царскай казне, што таксама спрыяла ўзнікненню падазронасці і страху.

Больш заможныя гараджане, шляхта дэманстравалі разуменне праблем французскага войска і сваю лаяльнасць да яго. Жонка нясвіжскага ардыната Дамініка Радзівіла княгіня Караліна першай аддала французам трыццаць бочак жытняй мукі з мяхамі, дзве бочкі круп, дзесяць валоў, дваццаць баранаў і іншыя прыпасы. За ёй пачалі ахвяраваць і іншыя.

Падтрымаў маральна «асвабадзіцеляў» вядомы мінскі біскуп Якуб Дзядзерка. 19 ліпеня 1812 года ў кафедральным саборы ім была адслужана імша па войску, на якой прысутнічаў губернатар Бранікоўскі са штабам. У кароткай прамове біскуп ухваліў заступніцтва імператара над беларускім народам і ў заканчэнне мовіў літаральна наступнае: «Скрушыліся кайданы маскоўскія. Уходзім мы пад слодке паньство цара Напалеона. Заклікаю ўсіх, каму дарагая Айчына, пад харугвы Збавіцеля!»

Заклік лёг на добрую глебу. Напалеон дазволіў (хаця і пад сваім наглядам) ажыццявіць беларусам самакіраванне на тэрыторыі іх гістарычнай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага. Гэты дазвол быў сустрэты з радасцю. Хутка быў сфарміраваны вышэйшы орган новай нацыянальнай улады – часовы ўрад на чале з маршалкам Солтанам. 5 ліпеня вайсковая камісія ўрада пад кіраўніцтвам Аляксандра Сапегі (пазней – Грабоўская) прыступіла для стварэння першых, за доўгія гады, нацыянальных вайсковых часцей. Зразумела, ім належала выступіць на баку Напалеона, і імператар не пашкадаваў на гэту мэту грошай. Пяцьсот тысяч франкаў былі выдадзены ім з казны для фарміравання пяці палкоў пяхоты і чатырох палкоў кавалерыі агульнай колькасцю ў 14 000 рэкрутаў.

Адначасова Напалеон выдаў чатыраста тысяч франкаў на фарміраванне ў Варшаве лёгкаконнага палка сваёй гвардыі на чале з генералам Канопкам. Юнакі, беларусы і палякі, запісваліся ў гэты полк з вялікай ахвотай. Энтузіязм быў вялікі, нішто не прадказвала бяды.

14 верасня Мінск урачыста сустракаў французскага маршала князя Белуно Віктара. Губернатарам у гонар яго быў дадзены баль. Армія маршала Віктара ішла праз Мінск на Усход цэлы тыдзень. Была ў яе складзе і польская дывізія, сфарміраваная з палякаў і беларусаў у Іспаніі. Абывацелі выходзілі вітаць яе, а вядомы ў горадзе пан Антон Багдашэўскі з радасці выдаў землякам сто гарнцаў гарэлкі. Столькі ж ім прыслала і яснавяльможная пані Свідава. Да лагера дывізіі, які размясціўся за горадам на маляўнічай раўніне, спяшаліся першыя мінскія прыгажуні. Яны неслі салдатам гародніну, печыва, віно і, зразумела, сваё каханне...

Беларускае войска для Напалеона фарміравалася даволі хутка, без асаблівага напружання. Ніхто не мог меркаваць тады, што дараваная свабода праіснуе ўсяго тры месяцы і скарыцель Еўропы паверне назад.

Рэкруты браліся на шэсць гадоў службы. Гэта было куды лепей, чым чвэрць веку цягнуць лямку ў царскай арміі. Абшарнікі забяспечвалі сваіх рэкрутаў вопраткай, ботамі, запасам ежы на два тыдні. У кавалерыю ад 75 дымоў ішоў адзін коннік з канём, на яго ўзбраенне збіралася кругам 486 польскіх злотых. Па тагачаснай завядзёнцы камандзір палка прадаваў афіцэрскія пасады, іх купляла ахвочая да службы шляхта. За капітанскую пасаду плацілі каля 1 000 дукатаў, за пасаду паручніка – 400, падпаручніка – 200 дукатаў. На частку афіцэрскіх пасад запрасілі кадравых вайскоўцаў-палякаў, радавымі былі выключна сялянебеларусы.

Генеральным інспектарам беларускага войска быў прызначаны генерал, князь Рамуальд Гедройц, інспектарам пяхоты – генерал Несялоўскі, інспектарам кавалерыі – генерал Язэп Вавржэцкі. Апроч палкоў стварaліся і батальёны стральцоў. У іх траплялі, як правіла, паляўнічыя і палясоўшчыкі. Усяго такіх батальёнаў было сфарміравана шэсць, іх камандзірамі былі Язэп Касакоўскі, Ракіцкі, граф Казімір Пляттэр, Курчэўскі, Абуховіч і Ганькі.

Пакольку французы вялікіх гарнізонаў не пакідалі, для падтрымання парадку на ўсёй тэрыторыі Беларусі была ўтворана народная старожа – нацыянальная гвардыя, якая вучылася вайсковай справе ў святы. Адначасова на французскі лад ва ўсіх паветах былі ўтвораны жандармерыі ў складзе 107 душ мясцовай шляхты. Жандары атрымлівалі па залатому ў дзень і корм каню. Шэфам беларускіх жандараў быў палкоўнік князь Дамінік Радзівіл.

*Віктар ХУРСІК*

*(Заканчэнне будзе.)*

*На ілюстрацыі: партрэт Солтана*





## У 2004 годзе спаўняецца

**«Свята»**, Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988 г.) (Мінск; 1984) – 20 гадоў з часу стварэння.

**«Універсітэцкае»**, дзяржаўнае кніжнае выдавецтва (Мінск; 1984) – 20 гадоў з часу заснавання.

**Гайнаўскі музей беларускай культуры** (Польшча; 1984) – 20 гадоў з часу заснавання.

**Дзяржаўны маладзёжны тэатр Беларусі** (Мінск; 1984) – 20 гадоў з часу стварэння (адкрыты 30.04.1986 г.).

**Мінскі заапарк** (1984) – 20 гадоў з часу заснавання.

**Мінская фабрыка каляровага друку**, адно з буйнейшых прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасці Беларусі (1984) – 20 гадоў з часу заснавання.

**«Госціца»**, фальклор-тэатр Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі (1994) – 10 гадоў з часу стварэння.

**Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр**, беларуска-нямецкае прадпрыемства (1994) – 10 гадоў з часу заснавання.



*Галубіная пошта для гараджанаў*

*Фота Міхася ХАМЦА*

*Ад дзядзькі Антося*

# З запісных кніжак




### Калі хочаш абнавіць сад...

Бывае, трэба займець новы гатунак яблыні, грушы або слівы. Цяпер многія садовыя дрэвы вельмі хварэюць (чорны рак і інш.), дык, каб засцерагчыся, многія садаводы намагаюцца мець "сваё" дрэва. Галінку са здаровага дрэва трэба прышчапляць на дзічку, спадзеючыся на яе вынослівасць. Галінкі (аднагодня, моцныя, абавязкова з паўднёвага боку і верхнія) звычайна нарыхтоўваюць позняй восенню, калі дрэвы прыснулі і ў іх шмат спажыўных рэчываў. Можна нарэзаць чаранкі і цяпер – найлепш у той час, калі дрэва яшчэ не ажывілася. Даўжыня чаранкоў 40 – 50 см (пазней адрэзаць слабы верх і падсохлы ніз), падпісаць, прывязаць да іх біркі з указаннем гатункаў (пазней можаце забыцца і пераблытаць іх) і захоўваць пры тэмпературы не вышэй за 3 градусы цяпла. Чаранкі можна класці з паўночнага боку дома пад снег, утыркаць у пограбе зрэзамі ў дол або загортваць у мокрую тканіну, плёнку і класці ў халадзільнік.

Яшчэ пра сад. Вось пра той чорны рак, пра які згадваў вышэй. Страшная хвароба. Расце-расце дрэўца, зацвіло – люба глядзець на яго хараство, на першыя плады, сэрца ад радасці ледзь не выскоквае з грудзей. І вось пайшлі па ствале, па галінках чорныя плямiны, раны, і праз пэўны час усыхаюць галіны і дрэва гіне. Кажуць, хвароба завялася няўжо ў пітомніку ці набываецца з забруджанага паветра, а пасля пераносіцца насякомымі ў час цвіцення. Трэба не запускаць яе, лячыць дрэва.

Асабіста я, лічу, выратаваў познеасенні гатунак яблыні "Спартан", яшчэ ратую раннеасенню "Славу пераможцам". Малапатрэбныя галіны ўвогуле зразаю, плямiны на ствале выразаю, чапаючы і здаровае, абціраю (памазком) растворам меднага купарвасу, пасля залепліваю антыракавую замазкаю (ёсць такая ў крамах), а паверсе – сумесь гліны са свежым караўяком і абвязваю шчыльнай тканінаю (каб не размываў дождж).

Калі сад малады, то яго зімою могуць пашкодзіць зайцы і мышы (калі вы не абвязалі дрэўца яловымі галінкамі ці не абмазалі ствол тлушчам, калі не абтапталі снег вакол штамбаў). Вось наступае цяпер час агледзець садовую моладзь.

Калі раны на ствале неглыбокія і калі не зусім пашкоджаны слой паміж карой і дзярвінай, ці на галінках паадгрызеныя вяршкі, дык хутка замажце іх садовым варам, прыцямніце паперай ці анучкаю. Калі ж пашкоджанні значныя, то трэба іншае, больш дзейснае лячэнне. Яго са свайго вопыту я падкажу пазней, у красавіку.

Абразаць дрэва не спяшайцеся, пачынайце рабіць гэта пасля моцных маразоў, але перад рухам соку.

### Калі дбаеш пра ўраджай...

Скажыце, хто пра яго не дбае? Але трэба добрая зямля, угнаенні, насенне, расада, а яшчэ патрэбны час, бясспрэчна.

Але ёсць рэчы, якія можна рабіць для вышэйсказанага штодня і... на сваёй кухні. Збіраць ачысткі? Не шкодзіла б, ды іх трэба захоўваць, своечасова вывозіць. Але паспрабуй вось сёлета вывезці! Не выкідайце шалупінне цыбулі (пазней не толькі пафарбуеце яйкі, але і выкарыстаеце на дачы, скажам, абліўшы яе настоем пасаджаную бульбу), не выкідайце шкарлупіны з яек (а яйкі ўжываеце, бадай, кожны дзень). Шкарлупіны памыйце, абсушыце – і ў мяшэчак, яго вясной – на лецішча, разатрыце ды ў грубку. Попел з каліем і кальцыем вельмі палюбяць агуркі, памідоры і бульба, радасна аддзячаць вам.

### Калі кіслее варэнне...

Чуе мая жонка, што я, пішучы для вас, бурчу сабе пад нос, і кажа: "Ты не толькі мужчынам, але і жанкам-гаспадыням падкажы, што цяпер трэба абавязкова пераглядзець варэнне. Кабеты ўлетку стараліся, абіралі-збіралі ці куплялі ягады, цукар, пацелі каля пліт, нешта ўжылі, а нешта засталося, то шкада, каб яно прапала".

Праўда. Агледзьце.

– Калі ўбачылі плесень, здыміце не толькі яе, але і верхняе з ацалелага. Паверсе спрыяльна абліць хоць бы чайнаю лыжачкаю спірту. Калі яго няма, пасыпце хоць бы цукрам.

– Варэнне, у якім было мала цукру і якое ўжо "занепакоілася", апусціце ў вар-сіроп (150 – 200 г цукру на 1 кг варэння), варыце столькі, каб перастала з'яўляцца пенка, а пасля пераклядзіце ў чысты, сухім жарам прагрэты посуд.

– Варэнне, дзе было зашмат цукру, зацукравалася. Не бяда. Два шляхі абладзіць яго: выкласці ў каструлю, даліць вады і закіпяціць або паставіць слоікі з варэннем у цёплую ваду і давесці яе да кіпення. Застаяны цукар у варэнні разыдзецца.

– З чорнай свежанацёртай (вельмі карыснай) смародзіны тое, што ўжо мае дрожджавы пах, трэба выдаляць (у пакаранне за тое, што раней дрэнна мылі, мала сушылі ягады і клапаціліся, каб растварыўся цукар). Прыдатныя рэшткі – для кісяля і начынку для пірага. Для кісяля можа падыйсці і забрадзелы кампот.

*Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Працяг. Пачатак у № 1 за 2003 год.)***

**Археаграфія** (ад грэч. старажытны і пішу) – дапаможная гістарычная дысцыпліна, што распрацоўвае прынцыпы і метады выдання пісьмовых гістарычных крыніц. Мае сувязь з філалогіяй, палеаграфіяй, тэксталогіяй, архівазнаўствам і інш.

У Заходняй Еўропе з'явілася ў канцы XV стагоддзя, у Расіі – у XVIII стагоддзі, у 1824 годзе І. Грыгаровіч (1792 – 1852, беларускі гісторык афіцыйна-дваранскага кірунку, археограф) выдаў "Белорусский архив древних грамот" – першае археаграфічнае выданне, прысвечанае гісторыі Беларусі. У XIX – пачатку XX стагоддзя было выдадзена больш за 100 тамоў дакументаў па беларускай гісторыі, у тым ліку шмат помнікаў беларускай дзелавой пісьменнасці, беларускай мовы і літаратуры (летапісы, хронікі, статуты і інш.). Шмат археаграфічных прац выдадзена ў савецкі час намаганнямі розных архіваў, інстытутаў АН, выдавецтваў. Дакументы друкуюцца таксама ў перыядычных выданнях, у тым ліку і ў "Краязнаўчай газеце".

**Археалогія архітэктуры** (ад грэч. старажытны і логія) – галіна археалогіі, што вывучае рэшткі загінулых або значна перароблены помнікаў архітэктуры і на аснове здабытых ведаў аднаўляе тое, што было раней.

Навуковыя археалагічныя даследаванні помнікаў архітэктуры ў Заходняй Еўропе ўсталяваліся ў першай чвэрці XIX стагоддзя, у Расіі – напрыканцы яго, а ў 1930-я гады ўжо ў СССР археалогія архітэктуры вылучылася ў асобную галіну археалогіі, пазней удасканальвалася, у тым ліку ў сумеснай дзейнасці з іншымі галінамі.

Лічыцца, што на Беларусі адно з першых археалагічных даследаванняў зроблена ў 1790-х гадах у Полацку (аўтар іх невядомы), пры іх былі адкапаны і вывучаны падмуркі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра XII стагоддзя. З канца XIX стагоддзя пачалося вывучэнне найбольш старажытнага помніка мураванай беларускай архітэктуры – Полацкага Сафійскага сабора, каб дакладней вызначыць час яго пабудовы, перабудоў, вызначыць памеры і характар старажытнага і навейшага збудавання. Даследаваны таксама іншыя помнікі XII стагоддзя – Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква і Гродзенская Барысаглебская царква.



*Камянецкая вежа*

Археалагічныя даследаванні выявілі 10 мураваных будынкаў XII стагоддзя ў Полацку, рэшткі каменных храмаў XI – XII стагоддзяў у Мінску, XII – XIII стагоддзяў у Брэсце і Мсціславе, XII стагоддзя ў Тураве, палацавай і культавай пабудовы XII стагоддзя ў Гродне.

Прызнана, што ёсць дасягненні ў галіне археалогіі архітэктуры ў вывучэнні беларускага абарончага дойлідства XII – XVIII стагоддзяў. Праз раскопкі выяўлены рэшткі вежаў, сходняя Камянецкай вежы ў Брэсце, Тураве, замкавых вежаў у Навагрудку. Даследаваныя і многія помнікі абарончага дойлідства XVI – XVIII стагоддзяў, сярод іх – замкі ў Лідзе, Навагрудку, Гродне, Міры і інш. На плошчы Гродзенскага старога замка выяўлены рэшткі помніка XIV – XV стагоддзяў – Гродзенскай Верхняй царквы, у Навагрудскім замку – храма пачатку XIV стагоддзя і палаца 2-й паловы XV стагоддзя. Археалагічныя даследаванні Мірскага замка далі падставу сцвярджаць, што на яго месцы ў XV стагоддзі было паселішча, а Геранёнскі замак – адзін з першых на Беларусі, пабудаваны па ўзоры стараітальянскай бастыённай сістэмы, пра што сведчаць нізкія шматкутныя вежы – рандэлі. Зямельным умацаваннем бастыённага тыпу прызнаны Заслаўскі замак. Сярод беларускіх археолагаў у гэтым напрамку вызначыліся М. Ткачоў, А. Трусаў, І. Чарняўскі, Г. Штыхаў і іншыя.



*Старажытны Браслаў (рэканструкцыя)*



*Раскопкі забудовы Бярэсця*

***(Працяг будзе.)***

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 26.02. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 364.
Тыраж 1050.